

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

12 ЛЮТАГА 1999г. № 7/3987 КОШТ 12 000 РУБ.




**БУДЗЬМА РАЗАМ!**

*Шаноўныя чытачы!*

*Калі хто з Вас яшчэ не паспеў падпісацца на наш штотыднёвік, то гэта зрабіць можна і сёння. Кошт падпіскі на красавік — **70 тысяч рублёў**, на тры месяцы — **210 тысяч рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**




# Час красавання Іван-чаю...

ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАВА Барыса КАЗАКОВА

Барыс Казакоў сваё шасцідзесяцігоддзе адзначыў фактычна ўжо з год таму. Але выставу, што адкрылася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі СМ, ён лічыць па-сапраўднаму юбілейнай, ва ўсялякім разе справаздачнай за апошняе — вельмі плённае для мастака — дзесяцігоддзе.

Сам Барыс Іванавіч — з Ніжняга Ноўгарада, які па звычцы называе Горкім. Але за гады, праведзеныя ў Беларусі, зжыўся з ёю, палюбіў. І з пэўнай доляй здзіўлення кожны раз, калі завітае ў тыя мясціны, дзе жывуць зараз яго родныя, заўважае, што яны не ўспрымаюцца ім як блізкія. Барыс Казакоў скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут у якасці тэатральнага мастака і прапрацаваў пяць год у мінскім ТЮГу. Але жывапіс "перацягнуў": вось ужо колькі дзесяцігоддзяў Б. Казакоў вядомы беларускаму гледачу сваімі жывапіснымі творамі. Як мастак-жывапісец, атрымаў і званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

У яго работах заўжды адчувалася схільнасць да рускай класічнай школы жывапісу, асабліва ў вялікіх жанравых карцінах, — і зробленых на заказ, і "для сябе". Асабліва гэта заўважна ў матывах вясковага жыцця з коньмі і каровамі — нязвыклых для гарадскога чалавека. А ўсё вайна, якая прымусіла яго яшчэ малым пазнаёміцца і палюбіць вёску. У 1988—1992 гадах ён стварыў ці не найбольш значны жанравы трыпціх — "Дарогі, па якіх ніхто не ходзіць. Пейзаж XX стагоддзя". Ад пустэльнага шляху Чарнобыля яго асацыяцыі перайшлі да званіцы Калязіна, затопленай разам з горадам Рыбінскім вадасховішчам. Цэнтральная ж частка — сімвал закрытых уладаю духоўных шляхоў, забітых дзвярэй цэркваў, напісаная па матывах памятнага яму старажытнага помніка ў Юр'еве-Падольскім, разбуранага, а потым зноў аднаўленага. Толькі, крыўдуе мастак, калі на пачатку мінулага года ён паказваў гэту работу ў Маскве на сумеснай беларуска-расійскай выставе, то вывесілі чамусьці толькі цэнтральную частку...

Але ж улюбёная тэма мастака — беларускі пейзаж. Яго душу сёння вярэдзіць задума стварыць партрэтную галерэю — каго б, вы падумалі? — елак, якія ва ўсёй красе сваёй сустракаюцца яму па дарозе на лецішча, што блізу Лагойшчыны. Менавіта па дарозе туды ўзніклі работы "Час красавання Іван-чаю", "Лістапад. Мар'яліва", "Святло пянька".

Працуе мастак у асаблівай манеры і тэхніцы, якую вынайшаў, "зыходзячы з вечнага імкнення кожнага мастака вылучыцца". Ён не проста прамалёўвае на палатне дэталі — ён стварае пэўную рэльефную фактуру. Менавіта яна дадае выяве святла і паўценяў, стварае яе глыбіню і ў той жа час плоскаснасць. Так "Сон пры месяцы" стаў прыгожай начной казкаю, асветленай сапраўднай срэбнасцю зіхоткага месяца.

Хай жа натхненне і жаданне працаваць для зямлі, на якой жыве, не пакідае Барыса Казакова.

**Н. Ш.**



*На здымках: трыпціх "Дарогі, па якіх ніхто не ходзіць"; Барыс Казакоў.*

Фота К. ДРОБАВА.



# КОЛА ДЗЁН

***Дзіўны, мо нават унікальны мы народ, беларусы (такі ж, бадай, як і наш усходні сусед): ну зусім не здатныя мы вучыцца ні на чужых, ні на сваіх уласных горкіх, нават трагічных памылках. Стагоддзі гора і пакут, у тым ліку цягам апошніх васьмідзесяці гадоў, анічому нас, практычна, так і не навучылі. Для нас нават і Біблія, гэтая сапраўдная Кніга Быцця, якая дае яго ярчэйшыя ўрокі на ўсе магчымыя выпадкі, для нас не аўтарытэт. А можна было б, а трэба было б зазірнуць туды ды разважыць, падумаць...***

***Павёў з Егіпта, з рабства свой народ Маісей. І што? Ужо ці не ў першы, другі год многія пачалі бурчэць, абурацца, гневацца. Цяжка было ім брысці па пустыні, смягнуць без вады, падаць ад бяссілля, смаліцца пад пякельным сонцам удзень і дрыжэць ад холаду пад рызманамі ўначы. Захацелася вярнуцца назад, у рабства. А як жа: там было нялёгка, але затое была — пэўнасць. Цяпер жа наперадзе — адно змрок і беспрасветнасць...***

***Гэтак і мы. Толькі памкнуліся да свабоды і годнасці — і вось ужо: "Асадзі назад!" Туды, дзе было, здаецца, маркуючы па сённяшняй галечы, ужна і ўлежна. І няма ў нас прарока ў сваёй Айчыне. Таго, хто павёў бы нас, насуперак енкам і плачу, далей, у "краіну светлую", "краіну-браначку", туды, дзе "зара разгараецца", дзе мы здолелі б заняць "свой пасад між народамі". У нас — іншыя пракоі і іншыя шляхі-дарогі. Якія ўсё болей нагадваюць звіліны лабірынта, выйсце з якога, па ўсім, — у мінулае, у безнадзейнасць...***

## "СІГНАЛ" ТЫДНЯ

Дакументы аб далейшым збліжэнні Беларусі і Расіі, падпісаныя ў Маскве, выклікаюць неадназначны розгалас. Патрыятычныя сілы выказваюць неспакой, што курс, узяты на стварэнне якойсьці Саюзнай дзяржавы, можа прывесці да страты суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. З другога боку, празмернае "рвение" да яднання прыводзіць да абсурду. На апошняй калегіі Міністэрства культуры быў агучаны такі факт. У міністэрства паступіў "сігнал" з Магілёва, што мясцовыя ўлады працістаяць Саюзу Беларусі і Расіі тым, што... вырашылі пацясніць Музей дзекабрыстаў і размясціць пад яго дахам ясьчэ і Музей этнаграфіі. А між тым, Музей дзекабрыстаў, дзе пераважаюць адно планшэты і стэнды, займае ажно 3 тысячы квадратных метраў, такім размахам не могуць пахваліцца нават аналагічныя музеі ў Расіі. Так што размяшчэнне там жа і Музея этнаграфіі, як дасціпна заўважыў міністр А. Сасноўскі, не прынясе шкоды Саюзу Беларусі і Расіі.

## ЗАЯВА ТЫДНЯ

Прэзідыум Савета ФПБ у пацвярджэнне свайго рашэння аб недапушчальнасці прыняцця прэзідэнцкага дэкрэта "Аб дадатковых мерах па стымуляванні працы, умацаванні працоўнай і выканаўчай дысцыпліны" прыняў спецыяльную заяву. Прафсаюзы выступаюць супраць абмежавання правоў работнікаў, увядзення сістэмы жорсткіх штрафаў за парушэнне працоўнай дысцыпліны, падкрэсліваючы, што дысцыпліна працы павінна забяспечвацца перш за ўсё яе адпаведнай арганізацыяй і аплатай, дакладнай рэгламентацыяй правоў і абавязкаў работнікаў у адпаведнасці з заканадаўствам. Прэзідыум Савета ФПБ лічыць прыняцце дэкрэта спробай абмежаваць правы людзей працы.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ ТЫДНЯ

Друк, найперш незалежны, працягвае знаёміць грамадскасць з дакументамі нядаўняга Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі. Заўчора, у прыватнасці, была апублікавана рэзалюцыя кангрэса пра дыскрымінацыю беларускай мовы ў Беларусі. У ёй гаворыцца: "У выніку афіцыйнай палітыкі апошніх чатырох гадоў фактычна знішчаецца беларускае школьніцтва (колькасць першакласнікаў, якія навучаюцца па-беларуску, у Мінску, напрыклад, скарацілася з 58,6 працэнта ў 1994 годзе да 4,8 працэнта ў 1998 годзе, у двухмільённай сталіцы толькі 108 вучняў заканчваюць зараз навучанне ў школе на роднай мове); у Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе выкладанне вялося б цалкам па-беларуску; катастрафічна згортваецца беларускае кнігавыданне; беларускай мовай практычна не карыстаецца вышэйшае чынавенства, не звяртаецца да яе большасць дзяржаўных органаў, судовых і пракурорскіх устаноў..." Каментарыяў усё гэта, бадай, не вымагае...

## АНОНС ТЫДНЯ

Друк, афіцыйны і неафіцыйны, усё больш афішуе так званы "сусветны пацалунак", супершоу, якое адбудзецца ў Мінску ў дзень св. Валянціна. Брыдка, сорамна пра ўсё гэта чытаць. Сабраць і зафіксаваць на фота- і відэаплёнцы шматтысячны пацалунак — вось у чым мы намагаемся быць "наперадзе Еўропы ўсёй!" Прыкра, што ў падтрымку гэтай пошлай акцыі падключылася і шаноўная, старэйшая у нашай краіне газета "Звязда"...

## ПЕРАБОР ТЫДНЯ

Набліжаецца дзесятая гадавіна з дня вываду савецкіх войск з Афганістана. Дзень той, вядома ж, памятны: розум і справядлівасць урэшце перамаглі. І згадаць яго, нейкім чынам адзначыць — безумоўна, варта. А восьператвараць у своеасаблівае свята, адзначаць спецыяльным медалём, ладзіць выставы, прагляды фільмаў, канцэрты і г. д. — ці не занадта ўсё гэта, панове-таварышы? Нейкі не той прысмак ад усяго гэтага. Атрымліваецца, што гэта не хто іншы, а менавіта Беларусь аднаасобна ваявала за тое, каб зямлю сялянам у Афганістане аддаць...

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Паводле звестак Камітэта па інспекцыі працы, летась у Беларусі ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінулі 294 чалавекі і 692 атрымалі цяжкія траўмы. Пазалетась гэтыя лічбы былі трошкі большыя — адпаведна 310 і 757 чалавек. На жаль, зніжэнне гэтае адбылося не ў выніку кантролю, праверак і наладжвання сапраўднай бяспекі працы, а перш-наперш у выніку зніжэння аб'ёмаў дзейнасці прадпрыемстваў (карацей — прастояў) і "яператоку" значнай часткі працоўных з траўманебяспечных галін у камерцыйныя і іншыя невытворчыя структуры.

## ПАРАДОКС ТЫДНЯ

У Гародні зачынены рэстаран "Бістро". Праверка выявіла там "недаўкладанне прадуктаў". І наўрад ці варта было б пра гэта згадваць, калі б не адна акалічнасць. Праверка ў рэстаране адбылася назаўтра ж пасля таго, як там паабедалі старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання С. Шарэцкі і кіраўнік прызначанага гэтым Вярхоўным Саветам Цэнтрвыбаркама В. Ганчар. Нельга тут не згадаць і таго, што рэстаран належыць сыну апазіцыянера М. Гіруця. Дальбог, "все это было бы смешно, если бы не было так грустно".

АНОНС

# Люты — месяц... спеўны!

А спяваць будуць, паводле добрай традыцыі, у Гомелі. Тут, на базе знанага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага, у пяты раз пройдзе Пеўчая акадэмія. Праца яе скіравана ў агульнае тэматычнае рэчышча: "Музычная культура Беларусі на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў". З 17 па 20 лютага адбудуцца майстаркласы і курсы павышэння кваліфікацыі культработнікаў, пасяджэнні навукова-метадычнага семінара, адкрытыя ўрокі, навукова-практычная канферэнцыя. І, канечне, — канцэрты. У праграмах Пеўчай акадэміі — выступленні Акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча, народнага ансамбля песні і музыкі "Радуніца" з Мазыра, вакальна-харэаграфічнага ансамбля "Гомій", Камернага хору Гомельскай абласной філармоніі, народнага акадэмічнага хору Гомельскага каледжа мастацтваў, хору Беларускай акадэміі музыкі, Мінскага абласнога камернага хору і аркестра "Sonorus".



Заняткі, кансультацыі, творчыя дыскусіі, прафесійныя гутаркі збяруць у Гомелі многіх вядучых спецыялістаў краіны. Сярод іх — Віктар Роўда, Міхась Дрынеўскі, Любоў Каспорская, Леанід Івашкоў, Андрэй Мдзівані, Зінаіда Мажэйка...

Немагчыма не заўважыць, што дзякуючы творчай ініцыятыве Гомельскага каледжа мастацтваў на чале з яго дырэктарам, заслужаным работнікам культуры Беларусі Эдуардам Кірыленкам, пры падтрымцы Міністэрства культуры такія музычныя імпрэзы дзівосным чынам спалучаюць у сабе і свята, і навуку, і практыку.

**С. Б.**

*На здымку: народны артыст СССР В. РОЎДА з хорам Беларускай акадэміі музыкі.*

# Вылучаны на атрыманне прафсаюзных прэмій

***Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў разгледзела матэрыялы і работы, якія вылучаны на атрыманне прафсаюзных прэмій 1999 года, і паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе дапушчаны:***

**I. За творы прозы і паэзіі (адна прэмія)**

**Уладзімір Верамейчык** — кніга паэзіі "Ліхаўня".

**Кастусь Жук** — кніга вершаў і паэм "Галгофа".

**Васіль Жуковіч** — кніга "Ад казкі — да спектакля".

**Уладзімір Касько** — кніга "Святло далёкай зоркі".

**Уладзімір Паўлаў** — кніга твораў для дзяцей "Хто знае — адгадае".

**Франц Сіўко** — кніга аповесцей "Апошняе падарожжа ў краіну ліваў".

**II. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць (адна прэмія)**

**Іна Афанасьева** (артыстка эстрады) — за высокае выканаўчае майстэрства ў канцэртных праграмах 1996—1998 гадоў.

**Алена Рэмізоўская** (музыкальны кіраўнік) — за зборнік песень для дзяцей "Праменьчык" і кнігу "Солнышко".

**Рыгор Сурус** (кампазітар) — за канцэрт для сімфанічнага аркестра "На Купалле".

**III. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва (адна прэмія)**

**Валянцін Белахвосцік** (артыст тэатра) — за выкананне ролі Сэра Джона ў спектаклі Р. Харвуда "Касцюмер" (у тэатры імя Я. Купалы).

**Віктар Клімчук** (рэжысёр), **Аляксандр Сідараў**(мастак),**Аляксандр Маханькоў** (акцёр), **Алег Рыхтэр** (акцёр) — за стварэнне ў Беларускім тэатры "Лялька" спектакля па матывах казкі братоў "Грым" "Брэменскія музыкі", г. Віцебск.

**IV. За работы ў галіне кінамастацтва (адна прэмія)**

**Юрый Лысятаў** (кінарэжысёр) пасмяротна, **Марыя Кір'янава** (прадзюсер) — за стварэнне дакументальных фільмаў "Пётр Мироныч" і "Признание".

**V. За творы жывапісу, скульптуры і графікі (адна прэмія)**

**Георгій Лойка** (мастак) — за серыю твораў жывапісу "Свята" і стварэнне экспазіцыі і дыярам прыроды ў гісторыка-краязнаўчым музеі ў г. Чавусы.

**Уладзімір Ткачэнка** (мастак) — за цыкл твораў сацыяльназначнай тэматыкі — серыю пейзажаў "Зямля беларуская".

**VI. За работы ў галіне журналістыкі (адна прэмія)**

**Дзмітрый Новікаў** (галоўны рэдактар "Дэтэктыўнай газеты") — за актыўную творчую дзейнасць і стварэнне перыядычных выданняў для дзяцей і моладзі.

**Уладзімір Шапіра** (журналіст) — за кнігу нарысаў гісторыі Магілёўскага аўтазавода "Завод, который умеет все".

**Сяргей Шаўцоў** (аглядальнік газеты "Звязда") — за серыю журналісцкіх работ 1997—1998 гг., у якіх асвятляецца тэматыка абароны правоў чалавека.

**Ніна Яновіч** (аглядальнік "Народнай газеты") — за цыкл публікацый 1997—1998 гадоў у "Народной газеце" "Время. Реформы. Человек".

**VII. За дасягненні ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці (тры прэміі): у тым ліку:**

*а) за актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных (адна прэмія)*

**Вольга Лук'янава** — дырэктар бібліятэкі прафкама ААТ "Віцебскдрэў".

**Тадэвуш Стружэцкі** — начальнік аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры.

**Галіна Южаніна** — старшыня БРК прафсаюза работнікаў энергетыкі, электратэхнічнай і паліўнай прамысловасці.

*б) за высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці сярод калектываў дарослых — (адна прэмія)*

**Фальклорны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Валачобнікі"** Беларускага універсітэта культуры.

**Народны ансамбль народных інструментаў "Заранка"** Гомельскага абласнога Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці.

**Народны харэаграфічны ансамбль "Рунь"** Дома культуры тэкстыльшчыкаў АП "Магатэкс".

*в) за высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці сярод дзіцячых калектываў (адна прэмія)*

**Узорны ансамбль танца "Вясёлушкі"** Аршанскага Дома культуры чыгуначнікаў.

**Узорны дзіцячы фальклорны тэатр "Званочкі"** Дома культуры Дзяржаўнага коннага завода-камбіната "Мір" Баранавіцкага раёна.

**Народны цыркавы калектыў** Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.

**Дзіцячая эстрадная студыя "Юныя дараванні"** Дома культуры саўгаса-камбіната "Белавежскі" Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці.

Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў у галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на атрыманне прэмій Федэрацыі прафсаюзаў 1999 года.

*Вашы прапановы, водгукі, заўвагі просім да 1 сакавіка г. г. накіроўваць па адрасе: 220126, г. Мінск, пр. Машэрава, 21, Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Камісіі па прэміях ФПБ (пакой 804, тэл. 223-96-83).*



КАНЦЭРТЫ

# Маэстра глядзіць у перспектыву

Падчас нядаўняй сустрэчы са сталічнымі журналістамі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, народны артыст Расіі прафесар Генадзь Праватораў між іншым зазначыў, што хоча надаць сваім стасункам з публікай пазнаваўчы характар. Таму ён, як мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, абяцае заўсёднікам галоўнай канцэртнай залы краіны разнастайны, насычаны музычнымі падзеямі, сезон. Прынамсі, распачынаецца вялікі ды грунтоўны цыкл філарманічных праграм, якія прадставяць усе сімфоніі Бетховена і Шастаковіча. І паколькі геній XX стагоддзя напісаў у гэтым жанры амаль удвая болей за свайго вялікага папярэдніка, у межах цыкла плануецца таксама выкананне бетховенскіх фартэпіянных канцэртаў.

Знаёмства з творчасцю гэтых у чымсьці блізкіх па духу, у чымсьці процілеглых асоб, на думку Г. Праваторава, прадоўжыцца як мінімум два гады. І ажыццяўленне гэтай грандыёзнай мастацкай задумы прыцягне да супрацоўніцтва з аркестрам не толькі знаных "зорак", але і свежыя маладыя сілы. Маэстра падкрэсліў, што асаблівае значэнне пры гэтым надаецца з'яўленню маладых дырыжораў, "якія стварылі б перспектыву і адчуванне стабільнасці ў беларускім дырыжорскім мастацтве".

**С. ВЕТКА**

*ВЫДАВЕЦТВЫ-99*

# Планы і рэальнасць

Пішу адказы на пытанні вашай газеты аб выдавецкіх планах на апошні год стагоддзя, а па Беларускім тэлебачанні ідзе жахлівая рэклама. Сяляне смаляць паяльнай лямпай вепрука, потым жанчына — зўважце — кажа: "Ну, суседзі дарагія, давайце вып'ем па чарачкі, з'ямо па скварачкі"... Дзіка гучыць гэтае запрашэнне з вуснаў жанчыны, якая і не вінавата; такі густ рэжысёра і аўтараў. Гэтая рэклама — падробка пад "просты народ", апафеоз бездухоўнасці і сляпога натуралізму. Далей, пасля такога ляпа, ідзе анонс праграмы перадач — некалькі мінут агітацыі, каб мы глядзелі амерыканскі, французскі фільмы. Пра нашыя фільмы ніколі не чуў ніводнага слова. Паказваюць, як з падполля, абы з вачэй прэч. Не існуе для БТ нацыянальнай літаратуры? Хіба што так.

Не адным днём жывём мы, будзем спадзявацца на лепшае, не адным днём жыве і галоўнае выдавецтва краіны "Мастацкая літаратура". Было, ёсць чым ганарыцца і сёння. Бо гэта ж за нашыя кнігі "Прошча" і "Бабчын" паэты атрымалі Дзяржаўныя прэміі, гэта ж наша кніга "Сад на капялюшыку каханай" прызнана лепшай кнігаю 1998 года, прызнана не выдавецтвам, а саветам Прэзідэнцкага фонду, у якім сорак вядомых карыфеяў беларускай культуры, рэктары навучальных установ, кіраўнікі устаноў культуры.

Спадзяёмся, што наша выдавецтва атрымае дыпломы і на кніжных выставах. Прыкметна палепшылася мастацкае афармленне кніг. Гэты факт радуе. Цешыць душы нашаму калектыву прафесіяналаў, які незаслужана мала атрымлівае за сваю нялёгкую працу, і чытацкая любоў да нашых пісьменнікаў.

Быў эксперымент. Мы заявілі ў планы 1999 года каля сотні назваў з надзеяй, што калі будзе больш выбару, чытачы, гандлюючыя ўстановы, прыватныя гандляры закажуць менавіта тыя кнігі, якіх чакаюць і чытачы, і бібліятэкі. І былі расчараваны. Багата кніг розных жанраў (асабліва паэзіі) не назбіралі неабходных для выдання колькасці заказаў. Складанасць, як ведаеце, у тым, што мы ад дзяржавы маем па-ранейшаму толькі 50 працэнтаў датацыі на кожную кнігу, а астатнія 50 павінны вярнаць праз гандаль. А яшчэ ж трэба "выцягнуць" рэнтабельнасць, каб было трохі сродкаў і на прэмію супрацоўнікам, і на выданне камерцыйнай кнігі, і на набыццё паперы — цяпер без папярэдняй аплаты ніхто яе прадаваць не хоча. Цяжка...

Працуючы трэці год, разумею: трэба яшчэ больш увагі з боку вышэйшых улад да нацыянальнай літаратуры. Бо калі ўсё пускаць на самацёк, сітуацыя можа стаць катастрафічнай. Не лішне было б збавіць наша выдавецтва на якія дватры гады ад падаткаў.

Страшэнная дарагоўля матэрыялаў, неабходных для друкавання кніг у друкарнях, палохае. Сабекошт выдання ад 17 жніўня (аферы ў Расіі) вырас у шэсць разоў. Таму сёння дзяржава што мае на кнігавыданне, тое мае. Я не скарджуся — проста хачу, каб ведалі сітуацыю і нашы мажлівасці.

Пяцьдзесят дзве кніжкі цвёрда стаяць у плане 1999 года. Душа баліць, бо былі абяцанні некаторым пісьменнікам з нашага боку, былі спадзяванні на "Белкнігу", на заказы бібліятэк, на "Белкаапсаюз". Нашы спадзяванні не апраўдаліся, а з імі не спраўдзіліся і надзеі некаторых творцаў убачыць на паліцах магазінаў сваю кнігу як мага хутчэй.

Мажліва, з другой паловы года адбудзецца паляпшэнне, не будзем усё ж панікаваць.

Памятаю, на апошнім з'ездзе Д. Бічэль-Загнетава казала, што ўжо ніколі не дачакаецца сваёй кнігі выбранага. Але ж мы стрымалі свае слова. Кніга "Снапок" ідзе да чытачоў. Прыклады можна множыць. Просім калег толькі аднаго: у нас за кожнага баліць душа, і паступова на грошы выдавецтва, на гранты Прэзідэнта ўсё лепшае выдадзім абавязкова.

І так, што ж чакае чытачоў у гэтым годзе? Па-першае, да 200-годдзя рускага генія А. Пушкіна выдаём ладны томік у перакладах нашых майстроў слова. У новай серыі (цяпер яна мае назву "Беларуская проза XX стагоддзя" і "Беларуская паэзія XX стагоддзя"), якая заснавана Саюзам пісьменнікаў, выдавецтвам і Дзяржкамдрукам, выйдуць лепшыя творы В. Быкава, І. Пташнікава, А. Кудраўца, А. Разанава, Н. Мацяш... Камбінат імя Я. Коласа (дырэктар В. Германаў) дапамагае нам у рэалізацыі гэтай праграмы. Кнігі прыстойна афармлены, на добрай паперы. Жыць могуць гадоў сто.

Дэбютаў менш. Частку з іх спадзяёмся правесці праз Фонд Прэзідэнта па падтрымцы літаратуры і мастацтва. Не сядзім і самі без руху "капіталістычнасці". На камерцыйнай аснове запускаем "Быў, ёсць, буду" У. Караткевіча і "Вянок жаночых лёсаў" маладых аўтараў І. Масляніцынай і М. Багадзяжа. М. Лужанін сустракае сваё 90-годдзе (!) новай аповесцю. Рэдактар ад яе ў захапленні. З правінцыялаў дэбютуюць цудоўныя паэты з Віцебшчыны Люда Сіманёнак і Ігар Пракаповіч. Ах, якая паэзія! Добрым сюрпрызам для чытачоў будзе і першая кніга прозы А. Ветаха. Рэдкую сваёй адметнасцю кнігу "Выкраданне музаю" прадставіла навуковец, паэтэса А. Яскевіч, а трэцяя кніга У. Васілевіча з серыі "Зямля стаіць пасярод свету" (павер'і, рытуалы і звычаі беларусаў) — доўгачаканы падарунак усім. Яна, як і папярэдняя, не залежыцца на паліцах кнігарняў.

Па-ранейшаму выходзяць так званыя фундаментальныя рэчы — зборы твораў. Падрыхтаваны чарговыя тамы Я. Купалы, К. Крапівы, Р. Барадуліна. Выйдуць кнігі нашых пісьменнікаў і ў перакладзе на рускую мову: два тамы М. Танка і цікавыя гістарычныя аповесці В. Іпатавай.

Тыражы нашых кніг, на жаль, застаюцца на ўзроўні мінулага года. Сорамна нават лічбу называць. Карыстаючыся гэтай інфармацыяй і як рэкламаю, хачу звярнуцца да настаўнікаў — не толькі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, а да ўсіх настаўнікаў, студэнтаў, вучняў, прыхільнікаў нашай літаратуры: ад вас, паважаныя сябры, залежаць заказы на беларускія выданні. Не губляйце сувязь з роднай літаратурай. Паверце, беларуская літаратура XX стагоддзя адна з лепшых у Еўропе. Пісьменнікі таленавіта працуюць у розных жанрах.

Прыгодніцкую аповесць "Карона Вялікага княства" напісаў нядаўна ў нас У. Бутрамееў. Аповесць, прасякнутую любоўю да роднай прыроды, выносіць на суд чытачоў У. Федасеенка. Цікавая аповесць пра гады юнацтва ў Нямеччыне напісана М. Грыбавым: "Запіскі остарбайтэра". У гэтых і іншых кнігах і лёс беларуса, і яго душа.

Варта, на маю думку, адрадзіць паэтычныя клубы ў вёсках пры школах, у мястэчках. Добра, калі чалавек не жыве адным тэлебачаннем, а сочыць за нацыянальнай культураю, а таксама, бярэ ў ёй удзел, творыць і сам.

На жаль, абыякава ставяцца да роднай літаратуры газеты "Советская Белоруссия", "Белорусская нива". Больш таго, газета "Советская Белоруссия" наўмысна арганізоўвае траўлю выдавецтва і яго калектыву, "Нехорошо, товарищи" — аб'ектыўнымі трэба быць!

Я зайздрошчу лонданцам. 25 гадоў там будавалі новую нацыянальную бібліятэку. Дай Божа і нам яшчэ пры жыцці ўбачыць і наш храм мудрасці і ведаў. Я таксама далёкі ад думкі, што праз пяцьсем гадоў і мы пяройдзем да электроннай кнігі. Наша выдавецтва яшчэ паслужыць на карысць роднай культуры. Кніга як духоўная крыніца, як настаўнік, сябра, дарадца — адна з цаглін будынка нацыянальнай ідэі.

Не стамляюся паўтараць: без свядомага патрыёта, без духоўнага чалавека грамадства б'ецца ў тупіку парокаў і татальнага эгаізму, які нараджае нянавісць, зайздрасць і агрэсію. Дай Божа нам сілы і сродкі, каб выканаць план 1999 года, а лепш трошкі і перавыканаць, каб парадаваць не толькі пісьменнікаў, але найперш чытачоў, дзеля якіх усе мы ў пэўнай ступені і творым.

**Георгій МАРЧУК,**
**дырэктар выдавецтва**
**"Мастацкая літаратура",**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі**
**Рэспублікі Беларусь**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## Аркестр — юбіляр

Не кожны абласны цэнтр можа пахваліцца сімфанічным аркестрам. У Гомелі такі калектыў музыкаў існуе вось ужо дзесяць год. Кіруе ім Валянцін Краўцоў. Юбілейны канцэрт Гомельскага сімфанічнага аркестра адбыўся нядаўна ў памяшканні музычнага каледжа імя Н. Сакалоўскага. Прагучалі творы Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава, Глебава, а таксама Пучыні, Расіні, Гуно... Упрыгожаннем канцэрта стала выступленне мінчукоў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Андрэя Сікорскага (фартэпіяна) і Уладзіміра Мароза (барытон). Да юбілею мэрыя горада падаравала калектыву новыя музычныя інструменты на суму адзін мільярд рублёў.

## Жывапіс Івана Фірцака

Днямі адкрылася персанальная выстава гамяльчаніна Івана Фірцака. Работы яго заўжды ўражваюць дзівосным майстэрствам, свежым светапоглядам. Вось і зараз выстава жывапісца, арганізаваная абласным цэнтрам народнай творчасці, сабрала шмат прыхільнікаў таленту Фірцака. Сярод іх і тыя, каму больш падабаецца класічная манера жывапісу, і тыя, хто цікавіцца авангардам. У творчасці Фірцака ярка прадстаўлены абодва гэтыя накірункі. Застаецца дадаць, што работы мастака выстаўляліся ў Германіі, а таксама на фестывалі сучаснага жывапісу, які праходзіў у Мінску.

**Алег АНАНЬЕЎ**

## Апладысменты — масквічам

Гомель апошнім часам стаў месцам, куды рэгулярна прыязджаюць на гастролі славутыя артысты з Масквы, Санкт-Пецярбурга, іншых гарадоў. Днямі ў абласным грамадска-культурным цэнтры Маскоўскае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Ленком" паказала гамяльчанам спектакль "Фанданга" па інсцэніроўцы Мікалая Гуляева (ён жа і пастаноўшчык гэтай лірычнай камедыі). У спектаклі выступілі ўладальніца прэміі "Ніка" за лепшую жаночую ролю, лаўрэат прэміі "Кумір-97", народная артыстка Расіі Таццяна Васільева, а таксама акцёры Леанід Громаў і Мікалай Стоцкі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДНА...*

## Фотакоры — пра Беларусь

Адразу дзве фотавыставы адкрыліся ў доме тэхнічнай і мастацкай творчасці вучнёўскай моладзі. Адна з іх — "Браслаўшчына" Яўгена Казюлі, вядучага на Беларусі фотамастака, сябра фотаклуба "Мінск", фотакарэспандэнта БЕЛТА. Усе здымкі, што сталі вынікам адпачынку Я. Казюлі на Браслаўшчыне, зроблены з вялікай любоўю і суправаджаюцца вершамі вядомых паэтаў... Другая выстава — "Мой погляд на Гродна" Аляксея Паўлюця, таксама сябра фотаклуба "Мінск". Фотаздымкі зроблены майстрам падчас пленэру ў горадзе над Нёманам. Пленэр арганізаваў мясцовы фотаклуб "Гродна".

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*БРЭСТ...*

## Раберціна Ларэцці з Палесся

Так называюць трынаццацігадовага пінскага школьніка Сашу Чаркаса за высокі і светлы голас. Нядаўна спявак даў сольны канцэрт у Брэсцкім тэатры драмы і музыкі. У першым аддзяленні канцэрта гучала класіка (Шуберт, Моцарт, Бах), у другім — эстрадныя і джазавыя мелодыі. Выступленне прайшло на адным дыханні і яшчэ раз засведчыла вялікую працаздольнасць юнага спевака. Толькі летась Саша выходзіў на сцэну 45 разоў, удзельнічаў у дзесятках культурна-масавых мерапрыемстваў.

Талент Сашы Чаркаса заўважылі і развілі бацькі-педагогі, выкладчыкі Пінскай музычнай школы, дзе іхні сын вучыцца і цяпер. С. Чаркас удзельнік і лаўрэат некалькіх рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў. Ён запрошаны на стажыроўку ў школу мастацтваў у ЗША.

**Сымон АКСЕНІН**

*МАГІЛЁЎ...*

## У гонар акцёра

Больш за год таму пайшоў з жыцця таленавіты акцёр абласнога драматычнага тэатра Аляксандр Ташкіноў. Першага лютага яму споўнілася б 48 гадоў. У памяць пра выдатнага акцёра і чалавека калегі ў дзень нараджэння Аляксандра арганізавалі ў драмтэатры дабрачынны канцэрт. Прынялі ў ім удзел акцёры мінскіх тэатраў "Дзе-Я?", рускага драматычнага імя Максіма Горкага, "Хрыстафор". Аляксандра Ташкінова успаміналі артысты Магілёўскага драмтэатра і абласной філармоніі. Усе заробленыя на дабрачынным канцэрце грошы будуць перададзены сынам Аляксандра Ташкінова.

## Стыпендыя маэстра — юнай скрыпачцы

Днямі выхаванка Магілёўскага каледжа-гімназіі музыкі і харэаграфіі па класе скрыпкі Аня Пукінская атрымала дыплом і стыпендыю фонду Уладзіміра Співакова. За шэсць гадоў, якія Аня прысвяціла сваёй любімай справе, яна змагла дасягнуць многага. Скрыпачка з'яўляецца лаўрэатам шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, стыпендыятам прэзідэнцкага фонду падтрымкі таленавітых дзяцей і творчай моладзі. А стыпендыя ад маэстра Співакова яшчэ раз пераконвае ў майстэрстве і таленавітасці юнай скрыпачкі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБСК...*

## Ушацкія промыслы

Дзякуй Богу, таленавітыя майстры па традыцыйных промыслах на Ушаччыне не перавяліся. Аб гэтым сведчыць і выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якая адкрылася ў мясцовым дзяржаўным музеі народнай славы. Ганчар Уладзімір Бязрукаў, самадзейныя мастакі Віталь Бамбураў і Міхась Кляшторны, майстры па дрэве Вячаслаў Мурашоў і Франц Струй прадставілі свае работы. А арганізатары экспазіцыі знайшлі жаночыя строі пачатку стагоддзя.

**Святлана ГУК**

ВАРУНКІ

# На сваёй зямлі!

5-га лютага ў Мінску на плошчы Перамогі членамі РНЕ былі жорстка збітыя прадстаўнікі грамадзянскай ініцыятывы Хартыя-97. На сваёй зямлі!

Ужо не першы раз агрэсія гэтых неафашыстаў накіроўваецца ў першую чаргу супраць беларускіх дэмакратаў і нацыянал-патрыётаў. Менавіта ж яны будуць чыніць ім адпор. Напрыклад, увосень купка брытагаловых праваквала, памятаецца, бойку падчас аднаго з апазіцыйных шэсцяў. Хаця ў прынцыпе не мае істотнага значэння, каго канкрэтна збілі. У кожным разе падобныя інцыдэнты павінны пасрыяць адэкватным рэакцыям і заходам усяго грамадства. Гэта як праверка на здаровы дух і сэнс.

Здаецца, што дзеянні і наогул усялякая прысутнасць на беларускай тэрыторыі партыі шчыра прафашысцкай арыентацыі вымагаюць недастатковых маральных ацэнак, а, прынамсі, маральна-палітычных. Найперш на дзяржаўным узроўні. У гэтым і абавязак, і выгода ўладаў. Хаця б дзеля таго, каб не кампраметаваць сябе. А дзеля гэтага дастаткова толькі быць абыякавымі і не зважаць. Ёсць таксама неабходнасць пазбегнуць уяўленняў, што інтэграцыя ў Беларуска-расійскі саюз суправаджаецца актыўным імпартам і спрыяльнымі ўмовамі для распаўсюджвання фашызму. Нават у Расіі, дзе РНЕ народжана і афіцыйна зарэгістравана ажно з 1992-га года, гэтак, як у нас, шчыраваць ім не дазваляюць.

Міліцыя надзіва раўнадушна паглядае на чорныя фашысцкія уніформы. Пракуратура таксама пакуль не збіраецца займацца баркашоўцамі, бо нібыта няма падстаў, што "з боку РНЕ допускаюцца парушэнні грамадскага парадку ці іншыя дзеянні, якія б супярэчылі закону". Выказаўся толькі прэзідэнт. Ён заявіў, што "ў нас — не ў Маскве", і надзвычай выразна паабяцаў, што ў нашай краіне "любым фашыстам павырываю ногі". Аднак А. Лукашэнка негатыўна паставіўся да агучанай апазіцыяй ідэі стварэць дружыны самааховы і патруляваць горад. У прыватнасці, актыўны ўдзел у гэтым збіраецца ўзяць "Малады фронт", які ўжо неаднаразова меў пакуль што слоўныя сутычкі з прадстаўнікамі РНЕ і раз-пораз разганяў іх, калі тыя збіраліся. Прычым маладафронтаўцы амаль ва унісон прэзідэнту заявілі, што "на Беларусі фашызм недапушчальны, тым больш расійскі".

**Кірыла ПАЗНЯК**

## Запланавана ўвекавечыць




**Давыд Гарадзенскі нарадзіўся ў Пскове ад шлюбу князя Даўмонта з Марыяй, унучкай Аляксандра Неўскага. Год нараджэння невядомы. Памёр у 1326 годзе. Давыд ажаніўся з дачкой вялікага князя Гедыміна Бірутай. Валодаў удзельным княствам. У 1314 годзе ён разграміў крыжакоў, якія напалі на Навагрудак. У 1318 годзе арганізаваў паход войска Вялікага княства Літоўскага на Прусію, у 1324 — на Мазовію, у 1326 — на Брандэнбург. У апошнім паходзе па здрадніцку быў забіты мазавецкім рыцарам Анджэем Гостам.**

**Цела свайго любімага палкаводца воіны на шчытах прынеслі аж да самай Гародні, пахавалі на ўзвышшы каля Каложскай царквы — там, дзе ўжо была пахавана яго жонка Біруta, якую крыжакі забілі, калі Давыд Гарадзенскі знаходзіўся ў паходзе. Над магілай Давыда Гарадзенскага быў насыпаны высокі курган, сляды якога захаваліся ля царквы да сённяшняга часу.**

**Імя славутага сына Прынямоння да гэтага часу было амаль забытае. Толькі нядаўна адна з вуліц Гародні названа яго імем, названа недарэчна: вуліца Д. Гарадзенскага — нават не ўказана яго імя.**

**Па даручэнні ініцыятыўнай групы грамадзян Гародні я звярнуўся да старшыні Гарадзенскага гарадскога выканаўчага камітэта сп. Пашкевіча з просьбай разгледзець пытанне аб увекавечанні памяці выдатнага сына Гарадзеншчыны, князя Давыда Гарадзенскага, жыццёвы лёс якога непасрэдна звязаны з гісторыяй нашага старажытнага горада, з лёсам Каложскай царквы — старэйшым помнікам дойлідства Прынямоння. Просьба была разгледжана аддзелам культуры і ўпраўленнем архітэктуры і горадабудаўніцтва гарвыканкама ў намесніка старшыні гарвыканкама сп. Жабруна. Мерапрыемствы па ўвекавечанні памяці Давыда Гарадзенскага запланаваны на гэты год.**

**Апанас ЦЫХУН**

*Скульптурны партрэт Давыда Гарадзенскага работы мастака-рэстаўратара Уладзіміра Кіслага*

## "Зоркі" збіраюць сяброў

**Пад Беластокам адбыліся чарговыя, шаснаццатыя па ліку, літаратурна-тэатральныя сустрэчы творчай моладзі "Зоркі", арганізаваныя журналісткай Ганнай Кандрацюк пры падтрымцы тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва", міністэрства культуры і мастацтва РП, польскага фонду падтрымкі дзяцей і моладзі.**

**Творчыя семінары былі пабудаваныя па сістэме не толькі жывых непасрэдных кантактаў удзельнікаў і абмену вопытам у галінах журналістыкі, паэзіі і тэатра, але і ў рэалізацыі канкрэтных відовішчных перфоменсаў, якія аб'ядноўвалі творчыя высілкі маладых літаратараў і артыстаў у пэўныя праекты, бо, як вядома, творчыя кантакты мусяць заканчвацца канкрэтнай працай.**

**Добрай традыцыяй стала запрашэнне на гэтую сустрэчу гасцей з замежжа, што ўздымае ўзровень гэтага маладзёжнага форуму ад рэгіянальнай падзеі да міжнароднага маштабу, і ў будучым, магчыма, сустрэчы займеюць агульна-еўрапейскую папулярнасць. Беларусь прадстаўляў малады рэжысёр, акцёр і паэт Сяргей Патаранскі, які паказаў публіцы фантазію па санетах Шэкспіра.**

**Ігнат МАЛАНКАЎ**

СУСТРЭЧЫ

# Госці з Варшавы

У Саюзе беларускіх пісьменнікаў адбылася сустрэча маладых літаратараў з намеснікам галоўнага рэдактара варшаўскага часопіса "Твурчосць" Зімовітам Фядэцкім і слынным перакладчыкам беларускага мастацкага слова Чэславам Сенюхам.

З. Фядэцкі, гаворачы пра сучасны стан польскай літаратуры, падкрэсліў, што кожная літаратура жыве сваім краем. У Польшчы цяпер мала ведаюць пра беларускі край, але мала з'яўляецца і беларускіх твораў пра Польшчу. У Еўропе, на яго думку, цяпер наогул зменшылася ўвага да мастацкай літаратуры. Затым Фядэцкі падзяліўся сваімі назіраннямі над станам мовы на Беларусі. На Гродзеншчыне ён пачуў беларускую народную песню "Цёплыя вечары ды халодныя ранкі". Але ўжо сам пачатак песні прагучаў: "Цёплыя вечера..." Як выказаўся госць, на Беларусі існуе моўная каша: беларусы не гавораць па-беларуску, расіяне не ўмеюць гаварыць па-руску, палякі — па-польску. У заключэнне польскі пісьменнік сказаў: "Для Еўропы вельмі важная справа — жыццё вашай мовы. І мы будзем гэтаму спрыяць".

Чэслаў Сенюх, працягваючы размову, распачатую Фядэцкім, сказаў, што сучасная польская літаратура ўся ў пошуках. Розніца беларускай літаратуры ад польскай тым, што беларуская змагаецца за сваю мову, за яе існаванне. Маладым ёсць што сказаць на роднай мове, і з цягам часу яны многае яшчэ скажуць.

Ганна Кісліцына даволі падрабязна спынілася на творчасці маладых літаратараў, якія ідуць пераважна за формай, і таму іхнія творы не даюць асалоды для душы. Гэта мастацтва, але не паэзія. Маладыя выклікаюць цікавасць да сябе мастацкай формай, аднак, калі хочаш прачытаць пра жыццё, то звяртаешся не да твораў бум-бамлітаўцаў. На яе думку, літаратурнага працэсу сёння няма, ёсць людзі, якія самавыяўляюцца, але гэта нецікава для іншых. Маладыя робяць жэст, гэта своеасаблівая дэманстрацыя.

Пятро Васючэнка звярнуў увагу на асаблівасці беларускай літаратуры першай палovы XIX стагоддзя, калі заявілі пра сябе двухмоўныя паэты Ян Баршчэўскі, Вінцэсь Карэтынскі, Уладзіслаў Сыракомля. На той час польская літаратурная мова ўжо сфармавалася, а беларуская фармавалася пад вельмі вялікім уплывам польскай.

На думку Валянціна Акудовіча, беларуская літаратура была прыладай у нацыянальнай барацьбе. Цяпер літаратура ўпершыню падумала пра сваё прызначэнне. У нас няма дзяржавы, няма эканомікі, няма палітыкі. Ёсць літаратура.

Чэслаў Сенюх дадаў: "Наталля Арсеннева ведала, што хоча сказаць. Шмат залежыць не ад палітыкі, а ад людзей, ад творцаў".

Сяржук Мінскевіч і Зміцер Вішнёў гаварылі пра творчыя справы маладых, асабліва пра творчы рух Бум-бам-літ. Цікава выказаўся на гэты конт З. Фядэцкі: "Для мяне не існуе падзелу пісьменнікаў на пакаленні. Для мяне самае галоўнае — талент, а не тое, калі ён абудзіўся, у маладыя ці сталыя гады".

У заключэнне намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, які вёў сустрэчу, адзначыў, што адбылася цікавая гаворка аб прызначэнні мастацкай літаратуры, пераемнасці пакаленняў, творчых узаемасувязях. Кожны выступоўца выказаў свае думкі, але разам з гэтым мы маем на ўвазе тое, што літаратура ў нас адна, і яна складаецца з розных плыняў і накірункаў.

**А. ГАРДЗІЦКІ**



*На здымку: З. ФЯДЭЦКІ і намеснік старшыні СБП Н. ГАЛЬПЯРОВІЧ*

*Фота Я. ПЯСЕЦКАГА*

АНОНС

# Хворая паэзія падмурка

***Ці не самае вядомае, яно ж — шараговае, яно ж — банальнае пытанне да рэжысёра: чаму, маўляў, вы беряцеся ставіць гэтую (а не якую іншую) п'есу? Пытанне гэтае задаюць часцяком, — столькі, колькі разоў рэжысёр адважваецца на прэм'еру.***

***Валерый РАЕЎСКІ, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, больш за дваццаць пяць гадоў мусіць яго выслухваць. 24 лютага прэм'ерай завершыцца работа В. Раеўскага над п'есай пецярбуржца Юрыя Ломаўцава "Піраміда Хеопса". Адказ на самае банальнае пытанне Валерый Мікалаевіч даў такі:***

— "Піраміда Хеопса" — адметная п'еса. Гэта гісторыя сям'і, пададзеная праз скрухі, катаклізмы, пературбацыі нашага часу. Саракагадовага расійскага драматурга, які ведае й разумее жыццё, насамперпаўдзе адкрываюць у Беларусі (Ломаўцава яшчэ не ставілі). Ён карыстаецца прыёмам Дастаеўскага, — бярэ чалавека з натоўпу і найпільна вывучае яго, нібыта прэпарэ, разбірае яго па костках. Бярэ асобную сям'ю і дае ёй самы звычайны, самы шараговы генетычны код (як вырак) — Сямёнавы. Як Івановы, Пятровы, Сідаравы, — з аднаго кола, з аднаго кола, з аднаго шэрагу. Шэрагу гэткіх не новых рускіх, якія даўно забыліся на сваю генетыку, — тую, у сваю чаргу, звыродзіў, знявечыў славуты кастрычнік 1917 года. Нездарма маці з гэтай сям'і ўсё жыццё выкладала гісторыю кампартыі, а сучасная студэнцкая моладзь называе яе цяперашні прадмет СНІДам. Нездарма бацька з гэтай сям'і і ўсё жыццё праектаваў адметныя самалёты для савецкай таталітарнай сістэмы, — у нас іх называлі лепшымі ў свеце, хоць яны і былі цяжэйшыя і даражэйшыя, і не заўжды лёталі. Бацькі прадвызначылі лёс сваіх дзяцей, — драматычны, трагічны, але такі... шараговы. Звыкла савецкі...

Неадназначны, поліфанічны, размаіты стан чатырох персанажаў п'есы, але на ўсім ляжыць адзнака подзвігу, паэзіі, вялікай паэзіі быцця. Ва ўсіх дзеяннях — намаганне выдрацца з дрыгвы побыту, ідэалогіі, дыктату шараговасці й будзённасці, на ўсім — асэнсаванне таго, што жыццё пражыта дарэмна, а спадзявацца няма на што. Усе мітусяцца. Сярод іх няма героя. Але ёсць маленькія, вельмі блізкія мне людзі, якія кладуцца ў падмурак вечнай піраміды, — Сямёнавы, Раеўскія, Любімавы... Няважна, хто сядзіць зверху. Важная яна, пірамідальная ўладная структура, прадуманая, выбудаваная да пясчынкі. Калі я, пясчынка, выпадаю, я пачынаю піраміду разбураць, яна дае расколінку, расколіну, трэшчыну... Але як спрытна й хутка яе цэментуюць, аднаўляюць, — тыя, на чым цярпенні ды няўменні сказаць "не" трымаецца піраміда. На такіх, як выдатны персанаж Аляксей, сын сваіх бацькоў — рэфлексуючы герой нашага часу, нашага стагоддзя, — з пераламаным пазваночнікам, з перакручаным мысленнем, які не прымае спосаб мыслення маці і спосаб існавання, навязаны дзяржавай, у якой жыве. Ён — шараговы інжынер, не самы таленавіты, не самы бяздарны; ён згубіў, страціў усё. У посттаталітарнай дзяржаве ён застаўся ні з чым — з усімі сваімі ведамі, сувязямі, магчымасцямі. Жабраком. У тым, як гэта апісаў Юры Ломаўцаў, няма ніякага чарноцця. Але ёсць, паўтаруся, вялікая, дзіўная паэзія, хворая паэзія хворых людзей, якія раптам усвядомілі, што менавіта яны — крывавы падмурак дзяржаўнай піраміды. Гэтая хворая паэзія мусіць вызначыць спектакль, вылучыць яго сярод нашых пастановак.

Скажу шчыра: я даўно не сустракаўся з такім высокім узроўнем драматургіі. Такая драматургія можа забяспечыць спектаклю поспех...

**З Валерыем РАЕЎСКІМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

# Дыялог навукоўцаў

"Беларуска-расійскія дачыненні: праблемы і перспектывы" — пад такой назвай у Мінску на факультэце міжнародных адносін БДУ (ФМА БДУ) 26 і 27 студзеня 1999 года адбыўся "круглы стол", у якім бралі ўдзел вядомыя беларускія і расійскія навукоўцы — спецыялісты па беларуска-расійскіх дачыненнях. Гэта ўжо быў другі "круглы стол" па такой праблеме. Першы адбыўся роўна год таму ў Маскве ў Інстытуце сусветнай эканомікі і палітычных даследаванняў Расійскай акадэміі навук (ІСЭПД РАН). Асаблівую актуальнасць цяперашні "круглы стол" набыў у святле падпісанай у канцы мінулага года ў Маскве прэзідэнтамі Беларусі і Расіі Дэкларацыі аб аб'яднанні Беларусі і Расіі. Пра яго важнасць сведчыць хаця б тое, што міністр замежных спраў Беларусі Урал Латыпаў папрасіў гаспадара "круглага стала" дэкана факультэта міжнародных адносін Аляксандра Шарапу матэрыялы па выніках гэтага "круглага стала" прадаставіць ягонаму ведамству.

Накіроўваючыся на гэты "круглы стол", многія чакалі патрапіць на чарговае (для птушачкі) мерапрыемства, на якім будзе поўны "адабрамс" афіцыйнай палітыцы па гэтым пытанні. І былі прыемна здзіўленыя адкрытым, часам нават рэзкім, дыялогам навукоўцаў на гэту сапраўды вельмі актуальную для грамадскасці абедзвюх краін тэму. Было шмат змястоўных, шчырых і вострых дакладаў як з расійскага, так і беларускага боку, у якіх выступоўцы глыбока і ўсебакова прааналізавалі сённяшні стан беларуска-расійскіх дачыненняў, найперш зрабіўшы акцэнт на праблемах. Пра сур'ёзнасць і грунтоўнасць гэтага мерапрыемства сведчыць і кола ягоных удзельнікаў, сярод якіх дэкан ФМА БДУ прафесар Аляксандр Шарапа, прафесар кафедры міжнароднага права ФМА БДУ Юрый Броўка, прафесар кафедры міжнародных адносін ФМА БДУ Уладзімір Снапкоўскі, загадчык аддзела праблемаў СНД Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта РБ Уладзімір Іскрык, дырэктар Цэнтра параўнальных палітычных даследаванняў ІСЭПД РАН прафесар Барыс Шмялёў, галоўны навуковы супрацоўнік ІСЭПД РАН, прафесар Вячаслаў Дашычаў, старэйшы навуковы супрацоўнік, вядомы расійскі пісьменнік Юрый Сураўцаў і іншыя.

**Алесь ЛІХАВЕЦ**

МЕРКАВАННЕ

# Роздум, народжаны адным пытаннем

Разумныя людзі кажуць: калі хочаш ведаць праўду, не задавай пытанняў. Хітрыя людзі робяць інакш. Каб атрымаць пажаданыя адказы, яны задаюць быццам бы прасценькія, няхітрыя пытанні, накшталт такога, якое я ўзяў з перапіснога ліста маючага адбыцца ў лютым перапісу насельніцтва: "На каком языке Вы обычно разговариваете дома?" Дарэчы, ці гэтак ужо патрэбна такое дарагое мерапрыемства, як перапіс у наш цяжкі час? Расія, якой больш карыць, і тая адмовілася ад яго. Але, на жаль, у нас робіцца часта не тое, што трэба, а тое, што хочацца.

Дык вось, наконт пытання. Ці можна адказаць на яго не схлусіўшы? Думаю, што працэнтаў восемдзесят людзей адкажуць, што размаўляюць яны на рускай мове. Але ці будзе гэта праўдай? Не і не. Па-першае, у самім пытанні, зададзеным па-руску, прысутнічае пажаданы адказ. Па-другое, ці часта зараз у Беларусі чуеце вы чыстую рускую ці беларускую мову? Рэдка, больш "трасянку", сумесь моў. У залежнасці ад мясцовасці. На захадзе больш мешаніны беларускіх слоў з польскімі, на ўсходзе — беларускіх з рускімі, на поўдні — беларускіх з украінскімі. Дасведчаныя сцвярджаюць, што на поўдні нават ёсць самастойная паляшуцкая мова. Я не філолаг, і не буду гэтага абмяркоўваць. Але зазначу, што тое, як гавораць палешукі, мне вельмі падабаецца. Моладзь наогул часта размаўляе на мацернай мове, ды так, што ў старых людзей вушы вянуць. У бізнесоўцаў, "дзелавых" — свая мова... А як увогуле адказаць на пытанне перапіснога ліста мне, калі я жыву адзін?

Нядаўна ў аўтобусе я правёў невялікі эксперымент. Каля мяне стаялі тры жанчыны вяскова-гарадскога тыпу, пэўна, прыехалі з нейкага раённага цэнтра. Іх мова складвалася ў большасці з беларускіх слоў, але ўстаўляліся часам і рускія. Папрасіў прабачэння і спытаў, як яны адкажуць на пытанне з перапіснога ліста. Адна з іх, найбольш кантактная, задумалася, прагаварыла: "Напэўна, на руска-беларускай адкажу". І дадала: "Вельмі люблю, калі размаўляе хто на чыстай беларускай мове". А адна з сядзеўшых побач мінчанак, з тортам на каленях, пачула маё пытанне і ўступіла ў гаворку: "А мне всё равно, на каком языке размовляць, лишь бы поесть што было". На жаль, часта ў гэтым уся наша сутнасць.

Дык каму ж патрэбен адказ на гэтае пытанне? Ды таму, хто на рэферэндуме ў траўні 95-га паставіў пытанне аб наданні рускай мове, якая не была і не магла быць у далейшым пакрыўджанай, статуса дзяржаўнай. Таксама быццам бы бяскрыўднае пытанне, але ў выніку якая шкода нанесена беларускай мове. Да таго ў беларусаў паступова адраджалася самасвядомасць, расла колькасць беларускамоўных школ, нават размаўляць па-беларуску стала модным. А пасля рэферэндуму пайшоў адкат назад. Чыноўнікі зразумелі, як да гэтага пытання ставіцца прэзідэнт. Над мовай нашай стаў тварыцца здзек. У крамах з'явіліся "Духмяный" і "смачный" хлеб, гарэлка "Два бусла", мяса "Ковалочек" і г. д. Ля аўтавакзала красуецца магазін "Прыпутнік" (прыпутаўся, ці што?)... Прыклады такога нядбайства можна прыводзіць бясконца.

Кажуць, мова — гэта душа народа. На жаль, чалавек у наш час бяднее не толькі матэрыяльна, але і духоўна. Гэта вельмі небяспечна. Бездухоўны, да таго ж галоўны (ці наадварот) чалавек можа зрабіць любое злачынства.

Духоўнасць, мне здаецца, павінны несці пісьменнікі, святары, тэлебачанне, радыё... Я лічу, што для адраджэння мовы, наогул духоўнасці, дзеячы культуры робяць многае. Яны спрабуюць дастукацца да сэрцаў людзей. У іх творах, спектаклях адчуваецца боль за Беларусь, яе людзей. Многія касцёлы праводзяць службы на беларускай мове. На жаль, такія выпадкі адзінкавыя ў праваслаўнай царкве...

Самымі ўплывовымі на погляды людзей, на стан іх духоўнасці з'яўляюцца зараз тэлебачанне і радыё. Яны таксама павінны быць незалежнымі, каб быць аб'ектыўнымі. У жыцці бачыш адно, а па тэлевізары — іншае. Вось нядаўна па БТ міністр гандлю абвясціў, што летась таваразварот узрос і зараз на прылаўках у магазінах вялікі выбар тавараў. І сапраўды, камера паказвае вітрыну, запоўненую курынымі кумпячкамі. Але каштуюць яны 445 тысяч рублёў (!). І гэта пры максімальнай пенсіі ў 3,5 мільёна рублёў. Вось такі метад напаўнення вітрынаў і апусташэння страўнікаў. І вось такая аб'ектыўнасць. Таму рэдка хто глядзіць перадачы Беларускага дзяржаўнага тэлебачання, а звяртаецца да больш аб'ектыўных і цікавых расійскіх тэлеканалаў. Таму і ўзнікае патрэба ў рускай мове. У людзей, якія паважаюць сябе, адбываецца наадварот: мясцовыя тэлеканалы з'яўляюцца больш запатрабаванымі.

Многія спытаюцца: у чым жа небяспека панавання рускай мовы, калі яна больш запатрабаваная? А ў тым, што гэта дазволіць многім сцвярджаць: родная мова наогул непатрэбная, і што беларусаў амаль не існуе.

Словам, такая пастаноўка пытання перапіснога ліста — некарэктная, неэтычная, можа нанесці шкоду як мінуламу, так і будучаму Беларусі. Пытанне гэтае — можа быць выкарыстана заўзятымі прыхільнікамі Саюза так, як выкарыстоўваюцца імі ж адказы на пытанне травеньскага рэферэндуму 1995 года аб падтрымцы мераў, накіраваных на эканамічную інтэграцыю з Расіяй. Я не ведаю ніводнага чалавека, які б быў супраць эканамічнай інтэграцыі, і не толькі з Расіяй. Але ж ніхто не даваў паўнамоцтваў на стварэнне палітычнага саюза, на знішчэнне суверэнітэту Беларусі.

Шмат пра гэта сказана і напісана. Шмат яшчэ будзе напісана і сказана... Беларус, які выбраў дзяржаўнай мовай рускую, прагаласаваў па сутнасці за "трасянку". Ці можам мы назваць гэтую "рускую" мову рускай, калі навокал усе спрэс цэкаюць, дзекаюць, чэкаюць і гэкаюць? Моўная дзяржаўная палітыка ніяк не спрыяе выпраўленню ганебнага становішча. "Роўнасць" рускай мовы з роднай бязлітасна калечыць апошнюю. Чарговае "волевыяўленне", прымусова зацісчанае ў рамкі супярэчлівых рэферэндумаўскіх пытанняў, прывяло да чарговай перамогі над самімі сабой. Так, адраджэнне на дварэ ці занепад, мова была, ёсць і будзе. Але так хочацца, каб заставалася яна сапраўды роднай і роўнай, каб не захоўвалася ў музеях (як занядбаная маці ў прытулку для састарэлых), каб не змагалася мы за яе, губляючы веру і надзею, а ашчаджалі, ушаноўвалі ды ўдасканальвалі. І не пытаннямі рэферэндуму ці перапіснога ліста, **амудрымі** паступовымі **агульнымі** намаганнямі.

**Янка БАЙКОЎСКІ**

СЕМІНАРЫ

# Куды ідзём?

***Жаночы адукацыйна-кансультацыйны цэнтр працягвае работу па развіцці самасвядомасці жанчын і іх сацыяльнай, прававой, экалагічнай асвеце. Чарговы семінар меў назву "Жанчыны і праблемы экалогіі".***

Няма сумнення: стан прыроднага асяроддзя аднолькава важны для ўсіх, незалежна ад полу, узросту і сацыяльнага статуса. І калі тэма сфармулявана такім чынам, то адно таму, што жанчына валодае рэпрадукцыйнай функцыяй, а значыць, яе здароўе мае важнае значэнне для ўсяго грамадства, для захавання генафонду нацыі.

Ад глабальных праблем экалогіі, пра якія расказаў загадчык лабараторыі Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі НАН РБ **В. Кадацкі**, перайшлі да мясцовых рэалій. Супрацоўніца названага інстытута **Л. Шарамет** ахарактарызавала стан навакольнага асяроддзя Беларусі. Мы даведаліся, што самым "брудным" па колькасці шкодных выкідаў у атмасферу быў 1997 год. Найбольш шкоднымі экалагічна з'яўляюцца аўтатранспарт, чорная металургія, цеплаэнергетыка, хімічная прамысловасць. У рэспубліцы існуе 160 палігонаў цвёрдых адходаў і 80 накапляльнікаў, не лічачы шырока распаўсюджаных звалак, якія слаба кантралююцца мясцовымі ўладамі. У нас перапрацоўваецца толькі 4 працэнты цвёрдых адходаў. Пры ўсіх існуючых праблемах насельніцтва тэхнагенных раёнаў і вялікіх гарадоў не інфармуецца пра стан экалогіі, не заўсёды маюць пазіцыю адносна гэтага грамадскія арганізацыі.

Трэба зазначыць, што Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух якраз-такі мае прынцыповую пазіцыю, доказам таму — гэты і многія іншыя семінары. Не хапае хіба шматлюдных і гучных акцый, як лічыць лідэр руху **Л. Пеціна.**

Гаворка не абышлася без дыскусіі наконт "мірнага атама". **В. Ермашкевіч** (Інстытут эканомікі Акадэміі навук) найперш паведаміў прысутным — актывістам жаночых арганізацый, навукоўцам, журналістам — пра маючую адбыцца ў сакавіку міжнародную канферэнцыю па развіцці атамнай энергетыкі ў Беларусі. Ён гаварыў пра існаванне шматлікіх міфаў вакол гэтай галіны, пра разбуральныя прынцыпы, пакладзеныя ў яе аснову. Не кажучы пра патэнцыяльную небяспеку і шкоднасць адходаў, пабудова атамнай станцыі абсурдная з чыста эканамічнага боку. Аслабленая крызісам краіна не ў стане "пацягнуць" дзесяцігадовую будоўлю аб'екта коштам 6-8 мільярдаў долараў. Пытанне мэтазгоднасці пабудовы АЭС пад Мінскам у мінулым годзе разглядала кампетэнтная камісія вучоных у складзе 34-х чалавек (старшыня віцэ-прэзідэнт НАН П. Віцязь). 29 снежня адбылося заключнае паседжанне камісіі і галасаванне. Вынікі такія: 7 — за, 19 — супраць таго, каб у бліжэйшыя 10 год браццa за пабудову АЭС (што не выключае захадаў па далейшым развіцці атамнай энергетыкі ў рэспубліцы).

Назаўтра ж, 30 снежня, збіраецца прэзідыум НАН і прымае супрацьлеглае рашэнне з супрацьлеглымі вынікамі галасавання. Абодва рэзюмэ накіраваны прэм'ер-міністру С. Лінгу.

В. Ермашкевіч лічыць, што пастаяннае напружанне вакол пытання ў многім залежыць ад самога Інстытута праблем энергетыкі: яго шматлікім супрацоўнікам проста трэба неяк "адпрацоўваць" зарплату. Узмоцненую ахову некалькіх кілаграмаў радыеактыўнага рэчыва, на што адцягваюцца сродкі, людскія сілы і тэхніка, ён назваў бутафорыяй. Заканамерна спытацца: каму і навошта яна патрэбна?

Выступленні **К. Буланавай** (Інстытут праблем радыебіялогіі) і **Т. Калгушынай** (кафедра акушэрства і гінекалогіі МДМІ) тычыліся непасрэдна здароўя жанчыны, у тым ліку рэпрадуктыўнага. Аказваецца, дзяўчынкі ў два разы часцей хварэюць на рак шчытавідкі. Хібы развіцця плода сустракаюцца ў 39-ці працэнтах выпадкаў — у чыстых зонах і ў 44-х — у забруджаных радыенуклідамі. Чарнобыль робіць сваю згубную справу: значна пачасціліся выпадкі дзіцячай анеміі і хвароб ва ўзросце 10-12 гадоў. У Беларусі адсутнічае "атамнае" заканадаўства. Прымальныя дозы забруджвання вызначаюцца не законам, а Міністэрствам аховы здароўя і іншымі ведамствамі. Між тым насельніцтва, асабліва маці і жонкі, церпіць ад хранічнага стрэсу. Па дадзеных апытання падаўленасць адчуваюць: 23 працэнты — жанчыны, 16 — мужчыны, стому — адпаведна 56 і 27, хваравітасць — 20 і 5.

На семінары закраналіся пытанні ўстойлівага развіцця і якасці жыцця **(П. Нікіценка)**, сувязі здароўя і харчавання **(Л. Ромбак)**, ролі недзяржаўных арганізацый у вызначэнні экалагічнай палітыкі **(В. Абрамава)**, прырытэтаў экалагічных каштоўнасцей **(Л. Кульбіцкая)**.

Згодна сацыялагічным даследаванням, станам навакольнага асяроддзя задаволена толькі 7 працэнтаў апытаных, незадаволена — 70; жыццём увогуле — 23 працэнты задаволены, 51 — незадаволены. Удумайцеся: палова з нас жыве ў пастаянным напружанні, раздражнёнасці, дэпрэсіі, нявер'і ў заўтрашні дзень. Куды ідзём?

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ФАКТ

# Прыгоннае права...

Цікавы дакумент давялося пабачыць днямі. "Аб унясенні дапаўненняў у пастанову Савета Міністраў РБ ад 2 красавіка 97 г." — называецца ён. Гэтая доўгая і непрыгожая назва хавае за сабой шмат непрыемных (мякка кажучы) момантаў для студэнцкай моладзі. З'яўляючыся лагічным працягам сумнавядомай пастановы N 276 (згодна з якой фактычна аднаўлялася прымусовае размеркаванне), тэкст за подпісам прэм'ер-міністра стаўся сапраўдным сюрпрызам.

Цяпер наймальнікам незалежна ад форм уласнасці (!) забараняецца на працягу двух год пасля заканчэння навучальнай установы прымаць на працу выпускнікоў дзяржаўных вышэйшых і сярэдніх устаноў, якія навучаліся за кошт бюджэтных сродкаў, без пасведчання аб накіраванні на працу або даведкі аб магчымасці працаўладкавацца самастойна. Узнікае пытанне: што такое бюджэтныя сродкі? Хіба гэта не сродкі падаткаплацельшчыкаў, сярод якіх і бацькі студэнтаў? Калі гэта так, то чаму дзеці абавязаны адпрацоўваць грошы сваіх жа бацькоў? Сказанае, трэба меркаваць, азначае немагчымасць працаўладкавацца ў некалькіх месцах адначасова. Напрыклад, уладкаваўшыся інжынерам, малады чалавек не зможа падпрацоўваць яшчэ недзе.

Цяжка сказаць, як паставяцца да ўзгаданай пастановы Саўміна пяцікурснікі розных факультэтаў (для некага яна, магчыма, і будзе дарэчы), але для студэнтаў журфака паўстае яшчэ і праблема маральнага характару. Паколькі накіраванне даецца толькі ў СМІ, што знаходзяцца на дзярждатацыях, даводзіцца выбіраць. Так некалькі хлопцаў, якія працавалі ўжо некалькі год у апазіцыйнай прэсе, вымушаны пераходзіць у дзяржаўныя выданні. Залішне казаць пра тое, што незалежная прэса ў выніку такіх дзеянняў урада страціла значную колькасць сваіх супрацоўнікаў. Затое, падобна, неблагія перспектывы адкрываюцца перад рэгіянальнай прэсай. Пра гэта ўскосна сведчыць подпіс у верхнім левым кутку дакумента старшыні Дзяржкамдруку М. Падгайнага (датавана рэзалюцыя 11.01.1999). Тым, хто не мае сталічнай прапіскі, "раяць" шукаць працу па месцы жыхарства бацькоў. Абяцаюць забяспечыць усе ўмовы, але гэты факт не надта супакойвае. Чаго вартыя абяцанкі па прынцыпе "захацеў даў — захацеў адабраў" студэнтам 94-га году склікання добравядома. Правілы гульні на працягу пяці гадоў мяняюць падчас самой гульні. Прыкладам можа служыць хоць бы становішча з аплатай за навучанне ("ЛіМ" пісаў пра гэта ў верасні 97-га). Безумоўна, ніякіх гарантый для размеркаваных студэнтаў дакумент не ўтрымлівае. Адзінае, у чым можна не сумнявацца, гэта ў тым, што, у выпадку невыканання ўсталяванага парадку, вінаваты (гэта значыць, наймальнік) заплаціць усю суму, затрачаную на падрыхтоўку спецыяліста з вышэйшай адукацыяй. Доказам таму восьмы пункт пастановы.

І яшчэ адна цытата для роздуму: "Для удовлетворения потребности в специалистах важнейших отраслей хозяйства республики, сельских районов и районов, пострадавших в результате аварии на ЧАЭС, осуществляется целевая контрактная подготовка специалистов". Каментар, як кажуць, непатрэбны.

Студэнты моўчкі сустрэлі саўмінаўскую пастанову. І толькі нехта ўпотай на вывешанай у калідоры ксеракопіі дакумента напісаў асадкай "Далоў прыгоннае права!"

**Вадзім ДОЎНАР**

КНІГАРНЯ

# "Табе, родная Мядзельшчына"

Яшчэ адно пацвярджэнне: калі за нешта значнае бяруцца людзі, якія добра ведаюць сваю справу, вынік відавочны. Так атрымалася і з гісторыка-дакументальнай хронікай "Памяць" Мядзельскага раёна, выпушчанай выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Яна прыкметна вылучаецца сярод аналагічных выданняў. А адбылося гэта ў першую чаргу таму, што над складаннем яе працавалі добрыя знаўцы гісторыі (у першую чаргу трэба адзначыць укладальніка кнігі і навуковага рэдактара Я. Звяругу і краязнаўцу, даследчыка К. Каратая), а таксама тое, што рукапіс даводзілі да ладу ў выдавецтве, якое і стаяла ля вытокаў кніг "Памяці", а таму склаўся калектыў, якому не займаць вопыту і які пры неабходнасці можа дапамагчы ілюстрацыйным матэрыялам. Важна і тое, што ўкладальнік, узяўшы за аснову патрабаванні і рэкамендацыі па стварэнні хронік, падышоў да справы творча, а таму ў кнізе вялікае месца адведзена аглядным артыкулам, якія дазваляюць адчуць, як ішло жыццё на Мядзельшчыне ў розныя гістарычныя перыяды.

І гэта відаць, ледзь адгорнем "Памяць". Артыкулы "Прырода Мядзельскага краю", "Помнікі прыроды", "Першавыткі", "З глыбіні вякоў", "Археалагічныя вандроўкі па старадаўнім Мядзелі", "Помнікі археалогіі", "Культавыя камяні Мядзельшчыны", "Манетныя скарбы Мядзельшчыны" нясуць багаты фактычны матэрыял. Ды і традыцыйныя ў хроніках раздзелы "У складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай", "У складзе Расійскай імперыі" маюць не толькі агляднй характар. У іх увайшлі і публікацыі, што ўдакладняюць пэўныя моманты даўніны, асобныя яе аспекты, знаёмяць з выдатнымі людзьмі.

Для прыкладу, пазнавальны артыкул "Тры Мядзелы". Як сведчыць яго аўтар М. Спірыдонаў (дарэчы, да напісання артыкулаў прыцягнуты і іншыя вядомыя даследчыкі — Я. Звяруга, М. Чарняўскі, А. Калечыц, Я. Янушкевіч, І. Саверчанка — спіс можна доўжыць), "у крыніцах 13—16 стагоддзяў сустракаюцца некалькі маёнткаў з аднолькавай назвай — "Мядзел". У канцы 15 стагоддзя яны належалі прадстаўнікам двух знатных родаў у Вялікім княстве Літоўскім... паноў Саковічаў і князёў Свірскіх".

Можна даведацца, як выглядаў мядзельскі замак, прачытаць пра нальшчанскага князя Даўмонта — заснавальніка Свіры, і ўвогуле пра князёў Свірскіх... Не абыдзены ўвагай і знакаміты Л. Сапега, якому на Мядзельшчыне належала некалькі маёнткаў, значныя зямельныя ўладанні, вялікая колькасць падданых. Гэтага дастаткова, каб у хроніцы з'явіліся і невялікая нататка пра вядомага нацыянальнага дзеяча.

Падобным шляхам укладальнік ішоў і ў некаторых іншых выпадках, калі пра таго ці іншага чалавека прыводзяцца звесткі толькі таму, што яго жыццё і дзейнасць пэўным чынам былі звязаны і з Мядзельшчынай. І такая ўвага да людзей, якія ў гэтым краі не нарадзіліся, але далучыліся да яго, апраўдана. Усё гэта не лішне ведаць чытачу, а чытачом кнігі, несумненна, у асноўным будуць жыхары Мядзельскага раёна, у тым ліку і моладзь, што паспрыяе справе патрыятычнага выхавання ў духу беларускасці, будзе спрыяць развіццю нацыянальнай самасвядомасці.

А што ўжо ў такім разе казаць пра землякоў-мядзельцаў?! Адзін артыкул "Пан Ян са Свіслачы з сынамі" такі багаты на цікавыя лёсы. Можна даведацца пра Яна Ходзьку, а таксама пра іншых Ходзькаў — Юзафа, Аляксандра, Міхала. Кожны з іх пакінуў значны след у гісторыі. У прыватнасці, Ю. Ходзька вызначыў на Каўказе па геаграфічным становішчы і вышыні над узроўнем мора 1386 пунктаў, што ў далейшым дазволіла праводзіць дакладныя здымкі Закаўказзя. А. Ходзька праславіўся як усходазнаўца — выдаў у 1832 годзе "Персідскую граматыку", падрыхтаваў размоўнік па турэцкай мове.

А ўзяць "Радавод вялікага маэстра Дз. Дз. Шастаковіча"?! Карані Шастаковіча трэба шукаць і на Мядзельшчыне. Не абыдзена ўвагай дзейнасць паэта-рэвалюцыянера А. Гурыновіча: беларускага кампазітара, арганіста і педагога І. Глінскага, які родам з Будслава; пісьменніка, журналіста Ю. Ляскоўскага; фалькларыста, этнографа, археолага, краязнаўцы і педагога Р. Зямкевіча.

Пра выдатных жа сучаснікаў згадваецца ў раздзелах "Вызначыліся працай" і "Ганарыцца Мядзельшчына сваімі землякамі". У апошнім найперш расказваецца пра выдатных дзеячаў літаратуры і мастацтва, культуры. Адкрываецца раздзел нарысам В. Рагойшы "Пясняр нарачанскага краю" пра народнага паэта Беларусі М. Танка. А далей артыкулы пра народную артыстку Беларусі М. Захарэвіч ("Шлях да святынь"), мастака В. Шаранговіча ("Сын кавала і аратая"); паэта, публіцыста, выдаўца Э. Будзьку ("Да культурнай працы маю больш ахвоты...") і многіх іншых.

Значнае месца займаюць агляднйя артыкулы "Народнае дойлідства", "Помнікі архітэктуры і мастацтва", "Побыт і вусна-паэтычная творчасць", "Культура сённяшняга дня і адгалоскі мінулага", "Мова Мядзельшчыны", "Нарачанскі край у творчасці мастакоў", "Вобразы нарачанскага краю ў творчасці беларускіх кампазітараў"...

І, канечне ж, шмат матэрыялаў пра перыяд Вялікай Айчыннай вайны, які дапоўнены спісамі загінуўшых у барацьбе з фашызмам. Знішчаных мірных жыхароў. Ёсць і спісы ахвяр беззаконня.

Прадмову ж "Роднай Мядзельшчыне" паспеў напісаць незабыўны М. Танк (датавана 1 студзеня 1994 года). Завяршаецца яна словамі: "Ад усяго сэрца міру і шчасця жадаю табе, родная Мядзельшчына". Яны могуць быць эпіграфам да хронікі "Памяць" Мядзельскага раёна.

**Андрэй ЯВОРСКІ**

# Мэтры не памыляюцца

"Быў час, быў век, была эпоха" — сказаў пра свой час Вядзьмак Лысагорскі. Гэта афарыстычнае выказванне можа быць прыменена як да савецкага, так і да постсавецкага перыяду нашай гісторыі. Прычым апошні перыяд, так званы перыяд пераходу да дэмакратычнага грамадства з рыначнымі адносінамі, выклікае часам не менш скептыцызму і іроніі, чым папярэдні.

Звычайна, як гэта ні парадаксальна, падчас бурлівых сацыяльных перамен, калі, здавалася б, не да весялосці, назіраецца ўсплёск сатырычнага і гумарыстычнага ў мастацтве, асабліва ў літаратуры. Менавіта ў перыяд канання былога СССР, калі Беларусь з неймавернымі цяжкасцямі стала набываць самастойнасць, упершыню заявіў пра сябе паэт-сатырык Уладзімір Ермалаеў.

Добра пра паэта сказаў галоўны рэдактар "Вожыка" Валянцін Блакіт: "У літаратуру Уладзімір Ермалаеў прыйшоў на хвалі культурна-асветніцкага адраджэння. Уваходжанне яго ў літаратуру адбылося адразу, без літаратурнага настаўніцтва. Ужо невялікія першыя публікацыі ў "Вожыку" сведчылі, што справу маем з неардынарным аўтарам".

З такой высновай можна пагадзіцца. Так, перад намі своеасаблівая, цікавая і таленавітая асоба. Талент даецца Богам, але праяўляецца ён па-рознаму. Шлях да чытача ў Ермалаева быў няпросты. Вось як пра гэта сказаў Генадзь Бураўкін: "Яшчэ са студэнцтва памятаю лірычныя вершы Уладзіміра Ермалаева. Скажу шчыра, яны не надта ўзнімаліся над тагачаснай паэтычнай роўнядззю, але ўсё ж запомніліся светлым пачуццём і адкрытасцю. Потым былі доўгія гады яго маўчання, а можа, проста назапашвання і жыццёвага вопыту, і літаратурнага ўмельства. І вось ужо ў 90-ыя гады адбылася мая другая сустрэча з Уладзімірам Ермалаевым — сатырыкам і гумарыстам. Яго "вясёлыя" вершы пазначаны відавочнай таленавітасцю і адметнасцю. Захавалася ў іх душэўная адкрытасць аўтара, яго тактоўнасць, мяккасць, але з'явілася баявітасць, тонкая іронія, мудрая хітрынка. У большасці сваёй творы Уладзіміра Ермалаева вострa надзённыя, нешматслоўныя і трапныя".

Думаецца, мэтры беларускай літаратуры не памыліліся ў сваіх выказваннях, даючы пакуль не надта вядомаму аўтару рэкамендацыі ў Саюз пісьменнікаў. За нейкіх сем гадоў, ад першых публікацый у жанры гумару і сатыры, паэт выдаў дзве арыгінальныя кніжкі ў "Бібліятэцы "Вожыка" "Хто не смяецца, той не есць" (1994 г.) і "Пераход колькасці ў колкасці" (1997 г.), а таксама падрыхтаваў рукапіс для выдавецтва "Мастацкая літаратура". Ягоныя творы ахвотна выкарыстоўваюць на радыё і ў перыядычных выданнях.

Чытаючы творы Уладзіміра Ермалаева, (часта анекдатычны сюжэт апрацаваны ці прыдуманы самім аўтарам), па-добраму зайздросціш пабудове тэкстаў, дакладнасці дэталей. Часам у нейкіх чатырох радках перадаецца цэлая сацыяльная з'ява:

***Мой дзядзька ў лепшы час***
***За дзесяць тысяч меў аўто.***
***А я — кавалак каўбасы***
***За столькі ж з'еў — і хоць бы што!***

Не ўстрымаюся і прывяду літаратурную пародыю, якая можа быць узорам кароткасці і трапнасці:

**ПЕРАХОД КОЛЬКАСЦІ Ў ЯКАСЦЬ**

*Я заўтра адгул бяру...*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Узяў адгулаў я тры дні...*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*І мяне ў тую краму пацягне,*
*што адчынена з 2-х гадзін.*

**Павел ШРУБ**

***Хоць прыстаў да скроні дула,***
***Хоць ты выстаў каравул —***
***Як збярэцца пяць адгулаў,***
***Атрымаецца з а г у л.***

Жанр гумару і асабліва сатыры не надта ўдзячны. Даводзіцца закранаць нярэдка і палітычныя моманты. Тут сатырыку не абысціся без смеласці. Трэба адзначыць, Уладзіміру Ермалаеву смеласці не пазычаць. Адметна, што ён не імкнецца некаму дагадзіць, трапіць у струмень агульных поглядаў на сітуацыю ў грамадстве. Ён перадае с в а ё разуменне, с в а е пачуцці, с в о й боль душы і сэрца. Возьмем хаця б такія актуальныя радкі:

***Жыццё кіпіць у барацьбе,***
***Vivat пeратурбацыя!***
***Вяла наперад КПБ,***
***Цяпер — Адміністрацыя.***
***У ступе зноў ваду таўкуць,***
***А людзі з тымі ж бедамі.***
***Куды на гэты раз вядуць,***
***Пакуль ніхто не ведае.***

Аднойчы давялося бачыць, як успрымаецца творчасць У. Ермалаева на слых, — на вечарыне ў клубе "На ростанях". Такім дружным апладысментам у зале пазайздросціў бы не адзін эстрадны выканаўца. Вядома ж, немалую ролю адыгрываюць прыродная інтэлігентнасць, нейкі прыемны магнетызм фігуры і твару гэтага высокага ростам і ладнага чалавека, ягоныя эрудзіраванасць і адукаванасць — ён з'яўляецца кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам кафедры гісторыі, сусветнай і айчыннай культуры Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Аднак асноўны крытэрый — адметнасць і дабротная якасць твораў. Для паэта характэрна добрае валоданне роднай мовай, адшліфаванасць сінтаксісу радка, нядрэнная рыфмоўка, трапныя канцоўкі, пачуццё меры.

Безумоўна, ёсць у выдадзеных кнігах і надрукаваных у перыёдыцы творах і недахопы. Хацелася б таксама, каб аўтар шукаў новыя формы, новыя хады. Ды ён, напэўна, адчувае і сам, на што трэба звярнуць увагу, бо перад намі не "зялёны" пачаткоўвец, а сталы творца, якому і карты ў рукі.

**Янусь МАЛЕЦ**

# Шчаслівы дзень паэта

У Рагачове жыве сціплы і таленавіты чалавек — Уладзімір Львовіч Немізанскі. Працуе ён выкладчыкам у мясцовым педвучылішчы. Выдаў некалькі паэтычных кніжак. Запомнілася апошняя падборка яго вершаў у часопісе "Полымя", якая пачыналася такімі радкамі: "На гэтай зямлі астрожнай крыўдзіцеляў і небарак паэту быць асцярожным не выпадае ніяк". Ці няпраўда, добра сказана? Яшчэ вядомы ён і тым, што стварыў у сваім горадзе (сам жа У. Немізанскі з Віцебшчыны, там вучыўся, працаваў, а пазней пераехаў на радзіму жонкі) музей пісьменнікаў-землякоў.

На днях Уладзімір Львовіч, а з ім мы падтрымліваем добрыя адносіны, даслаў мне новую кнігу вершаў. На гэты раз ён сабраў пад адной вокладкай лепшыя творы для дзяцей. "Чатыры зярняткі" — так назваў кнігу аўтар, і назву даў па вершы, які мне запомніўся па мінулагодняй публікацыі ў часопісе "Вясёлка":

***Знайшлі качаняткі***
***Чатыры зярняткі.***
***У бойцы ляцелі***
***І пер'е, і пух,***
***Бо два качаняткі***
***Чатыры зярняткі***
***Без бойкі ніяк***
***Не падзеляць на двух.***
***Раз'юшана біліся***
***Два качаняткі,***
***Пакуль не згубіліся***
***Недзе зярняткі.***

Вершы, што склалі гэтую кніжку, самыя розныя па тэматыцы, але вызначаюцца адным: напісаны яны прафесійна. У. Немізанскі валодае якраз той манерай пісьма, якая не пакіне абыякавай маленькага чытача. Ды і дарослага. Пра што б ні вёў гаворку паэт, робіць гэта ён з добрым веданнем псіхалогіі сваіх герояў.

Прыемнае ўражанне пакідаюць вершы "Дамавік" (а Дамавіком аказалася дзяўчынка Рыта, якая парадавала маці — прыбрала ў пакоі), "Дзед Мароз" (ён "чамусьці быў падобны да Таісіі Пятроўны, што жыве насупраць нас"), "Гуляем у верш" ("Як гуляць? А так: да слова рыфмы падбіраць"), "У грыбах" (надакучыла Алесю "з бабкай швэндацца па лесе" — стаміўся, а калі старая скажа, што свежым паветрам дыхаць ёй прыпісалі дактары, пашкадуе бабулю Алесь: — Пройдзем лес — увесь!).

А верш "Не хапіла басаножак" хочацца прывесці цалкам:

***— Ты чаму гуляеш, дождж,***
***Па асфальце басанож?***
***— На мае сто тысяч ножак***
***Не хапіла басаножак.***

Усяго ж у кнізе "Чатыры зярняткі" каля 60 вершаў. Нават пра значную частку іх у газетнай нататцы расказаць цяжка. Ды і ці трэба? Вершы неабходна чытаць, неабходна думаць над імі, перажываць, смяяцца, адпачываць, стамляцца. І каму пашчасціць набыць кнігу рагачоўскага паэта Уладзіміра Немізанскага (наклад усяго 500 асобнікаў), той будзе мець такую магчымасць.

**Васіль ТКАЧОЎ**

 **ЧАСАПІС**

## "Люстэрка"

"Перакулены свет" — такую ацэнку таму, што адбываецца сёння, даў Уладзімір Саламаха. Прынамсі, так назваў ён сваю нядаўнюю аповесць, у якой праўдзіва адлюстраваў, як цяжка цяпер жыць чалавеку, здатнаму захаваць сумленнасць, прынцыповасць. У "перакуленым свеце" па сутнасці знаходзяцца і героі кнігі Ніны Пракопчык "Люстэрка", што выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Правільней — гераіні. Сутыкнуўшыся з жорсткасцю, бесчалавечнасцю, яны па-свойму рэагуюць на гэта. Нярэдка не менш агрэсіўна, як і тыя, хто змушае іх на падобную рэакцыю. Н. Пракопчык зазірае на дно грамадства, але самае страшнае ў тым, што гэтае "дно" — наша паўсядзённасць. І пераважная большасць прывыкла да яе, а таму нават не ў стане пратэставаць, чаго, аднак, не скажаш пра асобных персанажаў Н. Пракопчык.

Ці не самая каларытная з іх — Іванка з апавядання "Ліліт на паляванні". Нягледзячы на свой малады ўзрост, яна шмат перажыла. Назаўсёды ў душы засталася рана ад таго, што бацька здраджваў яе маці. Цяпер ён — інвалід, па дарозе з каханкай на поўдзень трапіў у аўтакатастрофу, прыкаваны да ложка. Дый і іншыя мужчыны, у чым дзяўчына пераканалася, мала лепшыя. А таму ёй "асабліва хочацца прынізіць гэты мужчынскі статак... І яна абавязкова, вось толькі пачакайце, кіне нейкага ёлупня і ад




яго паедзе з палюбоўнікам на поўдзень. Не, лепш самалётам паляціць. І потым, прыехаўшы, схіліцца да матуліных каленяў і скажа: "Я адпомсціла за цябе, мама". І вочы яе будуць сухімі, без слёз. Яна сваё адплакала — досыць". А такога "ёлупня" Іванка шукае ў асобе прыгажуна Эдварда Гонскага. Невядома, як разгорталіся б падзеі далей (Іванка запрасіла Эдварда на кватэру), калі б у гэты час яе маці не затрымалася ў той жанчыны, якая і была палюбоўніцай бацькі. Для Іванкі гэта чарговы ўдар: "— У каго?! — Іванка ледзь не выпусціла трубку з рук. Ад роспачы ў яе не хапала слоў. — У Евы Кішчанковай? У гэтай прастытуткі? У той, што з тваім мужам?.. Ты даравала ёй? Мама, ластаўка, ці ж так можна? Ну пры чым тут Бог? Я не разумею цябе і ніколі не зразумею..." І дзяўчына рашаецца на адчайны крок, — крычыць, што яе гвалтуюць. А пасля, супакоіўшыся, заяўляе Эдварду: "Калі ты не хочаш атрымаць тэрмін і бавіць час у турме, раніцай мы з табою пойдзем падаваць заяву ў ЗАГС. Вось так, мой каханы".

І гераіні іншых апавяданняў — Леначка ("Цыганскае вяселле"), Жэня ("Падарунак"), Рыта ("Арыядна — сястра..."), усяго ў кнігу ўвайшло сем твораў "малога жанру", а таксама казкі "Анучка" і "Камень-Камянюка-Каменьчык" — у многім падобныя на Іванку. Ёсць нават падставы сцвярджаць, што перад намі як бы адна гераіня, якая хоча жыць ярка, непаўторна, па-свойму імкнецца да шчасця. І не знаходзіць яго, а адсюль — няспраўджаныя надзеі, маральны надлом. І злосць на ўсіх мужчын. Адначасова і ўсведамленне: "Жыць жа трэба, трэба неяк жыць". І гэта яшчэ больш узмацняе драматызм становішча, у якое яна трапляе.

Крыху абасоблена стаіць "Капялюш з ружамі". Гераіня яе Ева (імя, думаецца, аўтарам узята невыпадкова, тым самым Н. Пракопчык падкрэслівае пэўную тыповасць і лёсу, і абставін) — гэткая сучасная Папялушка. І яна знаходзіць свайго Прынца. Ды той аказваецца звычайным прайдзісветам. Разыграўшы сцэну кахання, атрымаўшы ўсё, чаго хацеў, пакідае Еву на дачы, якая, як неўзабаве высвятляецца, зусім не яго.

"Бібліятэка "Маладосці..." адкрыла яшчэ адну цікавую пісьменніцу. Як дагэтуль Лідзію Адамовіч, Святлану Бязлепкіну, Людмілу Дрожжу, Валянціну Кадзетаву, Тацяну Мушынскую і іншых, чые кнігі прыйшлі да чытача таксама праз гэтае выданне.

Лявон ЮРЧЫК

**ПАЭЗІЯ**

Васіль МАКАРЭВІЧ



# Тры вершы

## Пахаванне

*Пах ладану!*
*Ён ледзь не валіць з ног!*
*Здаецца, нават сцены не устояць.*
*Гарыць, палае з трэскам, як трыснёг,*
*Даўжэзных свечак*
*Зыркае кустоўе.*

*Прыціхлі*
*І Масква і Кастрама.*
*Бег прыпыніла сцежка палявая.*
*Глядзяць, як нема за труной труна*
*У бездань апраметную*
*Сплывае.*

*Пасля цямноты*
*З сівізной пакут*
*Сыходзіць перш абслуга, нібы цені,*
*Каб там агледзець пільна кожны кут,*
*А трэба, і — сагрэць дыханнем*
*Сцены.*

*Вядзе свой рэй*
*Жалобны рытуал —*
*Нарэшце душы, сваякі, усцешце! —*
*Як колісь у іпацьеўскі падвал,*
*Апошнім з іх сыходзіць*
*Самадзержца.*

*І над Нявой*
*У колькі жэрлаў-зяп*
*З гармат гарластых, голасна і нема,*
*Грыміць за гулкім залпам пругкі залп, —*
*Няўжо, як у капейку,*
*Б'юць*
*у неба?*

*Ды не!*
*Грымяць яны не наўздагад,*
*І бухаюць, як доўбняй у вароты.*
*А за снарадам шлюць яны снарад,*
*І б'юць прыцэльна ў дзень*
*Перавароту.*

*Сарваны долу*
*Чырвані каснік.*
*Труба спявае голасам прызыўным.*
*Ані салдат нідзе, ні матрасні.*
*І сцяг плыве, як і раней,*
*Над Зімнім.*

*І скрозь гады*
*Стаяць, як на падбор,*
*І новая зусім настала рата.*
*Прымоўкнуў Петрапаўлаўскі сабор,*
*Дзе ўлёгся самадзержац —*
*Імператар.*

## Шведскі мост

*Калі шчаміцца*
*Пушчаю наўпрост,*
*Дзе дол закрэкча*
*І пачне вагацца,*
*Вам трапіцца ляжнёўкай*
*Шведскі мост,*
*Што стаў даўным-даўно*
*Сухою гаццю.*

*Дзе тыя годы,*
*А не толькі дні,*
*Калі насціл тут слалі нехаджалы?*
*Там-сям бярвенні тоўстыя відны,*
*Хоць на той свет*
*Па плечы паўязджалі.*

*Няўжо тут Карл*
*Дванаццаты калісь*
*З падручнымі і конніцаю швэндаў,*
*Ды пад Лясную, хітры, нібы ліс,*
*На бітву вёў лясной дарогай*
*Шведаў?!*

*І перш, чым гнеўна*
*Шаблі і мячы*
*У бітве скрыжаваць*
*З Пятром Вялікім,*
*Тут валатоўкі загадаў сячы,*
*І круглякі вязаць*
*Лазовым лыкам.*

*А лес, што гойдаў*
*Летні небасхіл,*
*Не паддаваўся чужакам у латах.*
*Хто знае, колькі вытрымкі і сіл*
*Паклаў кароль,*
*Пакуль дарогу латаў.*

*Прайшоў ён, Карл,*
*І конніца прайшла,*
*З іржаннем гучным*
*І натужным храпам.*
*Як снегам, пенай*
*Быў занесен шлях,*
*Што гурбамі валіўся*
*З конскай храпы.*

*І бачыла*
*Лясная аддаля,*
*Як Пётр Першы,*
*З велічнаю славай,*
*Ледзь шабляй не дастаў да караля,*
*Каб разграміць прышэльца*
*Пад Палтавай.*

*Да поля славы*
*Тры вякі наўпрост*
*Вядуць шляхі ля ніў*
*І хвойных лапак...*
*Ляжыць у пушчы воўчай*
*Шведскі мост,*
*Як ад Палтаўскай бітвы*
*Аскабалак.*

## Леў Талстой

*Гэй, фурман,*
*Спыніся і пастой,*
*Бо да смерці ведаць мне цікава,*
*Ну чаму ён, мудры граф Талстой,*
*Са сваёй гасподы*
*Уцякае?!*

*Пачарнелі*
*Дрэвы, бы квачы,*
*Цемрадзь легла навакол аблогай,*
*Дык чаму сярод густой начы*
*Гурт людзей пусціўся*
*У дарогу.*

*Без густога*
*Грукату, цішком,*
*Неўпрыкмет ад'ехаўшы ад ганка,*
*Стогне дамавінаю цяжкой*
*Не карэта — простая*
*Фурманка.*

*Пільны,*
*Востры у яго пагляд.*
*Вузел пальцаў скручаных не хрусне.*
*Быццам ён вялікі канакрад,*
*І спяшае на крадзёж*
*З хаўрусам.*

*Можа,*
*Уцякае і бяжыць*
*Ад бяды, што за крысо хапала?!*
*Ці кіруе да святых бажніц? —*
*Хіба іх у графа*
*Не хапала!*

*Мо задумаў*
*Ён на скразняку,*
*Што гудзе раскручана, як звітак,*
*Праімчаць у простым цягніку*
*Пасярод сярмяг і шэрых*
*Світак!*

*Ён яшчэ*
*Не ведае, відаць,*
*Перад самым з сівізной світанкам,*
*Што яму у муках паміраць*
*Давядзецца на глухім*
*Паўстанку.*

*З небам,*
*Што студзіла боль сняжком,*
*Назаўсёды ён хацеў злучыцца.*
*Гэткай смерцю, труднай і цяжкой,*
*Адыходзяць хіба што*
*Злачынцы.*

*Поту па шчацэ*
*Цяклі цуркі.*
*Боль то адпускаў, то зноўку мучыў.*
*Можа, што сінодам ад царквы*
*Быў ён да астатніх дзён*
*Адлучан?!*

*Праз крутыя*
*Далечы вякоў,*
*Хоць душу і боль даўно сціскае,*
*Ва усіх, як ёсць, ерэтыкоў*
*Смерць такая, як свінец,*
*Цяжкая.*

*Пэўна, Бог*
*Праз дымную імжу,*
*Сцелячы снягоў за латай лату,*
*Не хацеў прыняць яго душу*
*У свае высокія*
*Палаты.*

*Крыж насіў*
*Ён колісь залаты.*
*Па Маскве хадзіў і ўвосень босы.*
*Грэшнік ён душою ці святы, —*
*Хай адкажуць мудрыя*
*Нябёсы!*

*Дык чаму*
*Пад чарадой ікон,*
*Быў у пустыні з жоўтымі пяскамі,*
*У зямлю не браў пакутны скон*
*І жыццё у дол*
*Не адпускала?*

*Боль не знае*
*Ні граніц ні меж.*
*У жыцця адзіная дарога.*
*Стой, фурман, куды, скажы, вязеш,*
*Можа, Бога да самога*
*Бога?!*



Фота К. Дробава

ПРОЗА

Алег ФОМЧАНКА

# АПОВЕДЫ-БЫЛІ



## Партрэт правадыра

Мой даўні прыяцель трапіў у бальніцу. Апошнім часам у яго нешта нядобрае адбывалася са здароўем. Бралі сваё і гады. Дый і праца вадзіцеля-рэйсавіка, а потым аўтарамонтніка — гэта штодзённае напружанне і фізічных сіл, і нерваў. І ўсё ж для ўсіх, хто ведаў яго, было нечаканасцю, што вось так раптоўна нашага сябра трасануў інфаркт, уклаў на бальнічны ложак. Зрэшты, у падобную ўстанову заўсёды пападаеш нечакана, асабліва калі да апошняга моманту на нагах, заўзята адданы сваёй справе.

А мой знаёмы быў ёю "па горла" захоплены. Гэта ўжо яго слоўца — па горла. Вадзіцель-рамонтнік, з добрым тузінам сумежных прафесій, з яго кваліфікацыяй і вопытам — на вагу золата. Іншы раз яго мякка дакаралі, а то і кпілі: няўжо без прыробку да пенсіі не можаш пратрымацца, не ўвесь жа век, як пракляты, укалваць, паберажы, у рэшце рэшт, здароўе. Дача, рыбалка, дый ці мала яшчэ чым іншым можна заняцца... А мой Васіль Мацвеевіч у адказ неяк невыразна і бяскрыўдна пакрэктваў, быццам не яму ўсё гэта гаварылася. А затым гэтак жа неакрэслена ўздыхаў: "Багат, калі нікому не вінават".

— Ну каму ты й што вінаваты? — пытаўся я.

— Кожны каму-небудзь што-небудзь вінен.

— Не разумею цябе, — паціху ўскіпаў я. — Ты вунь чарнобыльцам грошы даеш, яблыкі, ягады, усялякая гародніна з твайго дачнага ўчастка да інтэрнацкіх хлапчукоў і дзяўчынак сплывае. А яшчэ й настаўнік моладзі... Грошы хіба бярэш?

— Не бяру.

— Дык а чаго тады маўчыш? За цябе ж крыўдна!

— А чаму, чаго — крыўдна?

Я бездапаможна махаў рукой: хіба яму што-небудзь давядзеш?!

Трэба сказаць, што і ўласная жонка не разумела Мацвеевіча. З-за ягоных "хаджэнняў" на прадпрыемства не-не і ўзнікалі між імі сутычкі, якія вымотвалі нервы.

Зрэшты, у нейкай меры яшчэ можна было зразумець яго "працоўны энтузіязм", захопленасць. Працаваў ён няспешна, удумліва, выконваў звычайна асабліва складаныя і закавырыстыя, так званыя "прафесарскія" заказы, за што на аўтарамонтным на яго Богу маліліся. Усё гэта можна была неяк прыняць, такая работа надаралася, тым больш, не кожны дзень. Але вось настаўніцтва... Навошта яно яму было? Заўсёды знаходзіліся "хлопчыкі", нядаўнія пэтэвушнікі, альбо проста з "вуліцы" вучні. Нават дома, па выхадных Мацвеевіч важдаўся з імі, гэтымі "хлопчыкамі". Ён да іх і звяртаўся гэтак — хлопчыкі. А гэта вымагала сілы й цярпення, карацей — здароўя.

І вось — бальніца. Ішоў раніцай на работу і ўпаў непадалёк ад аўтобуснага прыпынку, у скверыку. Тут і падабралі. "Хуткая". Рэанімацыя.

Тыдні праз тры пусцілі да Мацвеевіча ў палату. Хацелася пакпіць з яго — даскакаўся, маўляў, ды язык не павярнуўся: быў ён сінюшна-бледны, пакорлівы, са звычнай дзіцяча-мяккай усмешкай на перасохлых вуснах.

— Ну што, пойдзеш зноў укалваць? — спытаў я.

— Пай-йду-у-у-у...

— Ай малайчына! Тады гэтак табе й трэба!

— Не ведаеш ты, Сямёнавіч, тагосяго з майго быцця-жыцця. Мусіць, і не даведаўся б, але... — вочы майго прыяцеля зацягнула сумам, а ў мяне раптам ёкнула сэрца, у горле перасохла: чаго, каб хто спытаў, задумаў спавядацца... — Значыцца, гісторыя тая адбылася, як зараз пішуць, у лютыя часіны сталінскіх рэпрэсій. Вучыўся я на шафёра і трапіў пасля вучобы ў аўтапарк. Канешне, не ў такі, як зараз, але і па тым часе — някепскі. Трэба зазначыць, што тады гэтых самых... здымкаў і партрэтаў "правадыра ўсіх часоў і народаў, лепшага сябра дзяцей" была безліч. Літаральна на кожным кроку. Партрэты яго — на плошчах і скрыжаваннях вуліц, у кабінетах, аўдыторыях і залах, у трамваях і цэхах, на бензазапраўках, нават у грамадскіх лазнях і прылазніках. Пэўна, віселі нават і ў гарадскіх туалетах. Гіпсавых дый іншых статуй таксама была процьма...

Васіль Мацвеевіч адкінуўся на падушку, прыклаў да спацелага лба жоўтую, з сінімі набраклымі венамі руку, цяжка ўздыхнуў і ціха, ледзь не шэптам, працягваў:

— Вісеў партрэт правадыра і ў чырвоным кутку аўтапарка. Ад работы станкоў у майстэрні, ад рухавікоў дрыжэлі трэсліся сцены, столь. Вось і зляцеў аднойчы долу і разбіўся на друзачкі сталінскі партрэт. Мы з сябруком у абедзенны перапынак у шашкі-паддаўкі гулялі. Шкло ўжо ва ўсе бакі разляцелася, калі мой настаўнік-вадзіцель зазірнуў у пакойчык. Потым яшчэ нехта зайшоў... І што тут пачалося! З парткома прыбеглі, з прафкома, з дырэкцыі... Нас трох тут жа забралі: ворагі, падрыўшчыкі сацыялізму, шпіёны-дыверсанты!..

Сябар мой знясілена памаўчаў, быццам зноўку перажываючы тое, што адбылося тады, ці, можа, проста збіраючыся з сіламі, каб прадоўжыць успамін.

— Карацей, прыкладна праз месяц нас, хлапчукоў, выпусцілі. Лепей бы не ўспамінаць тыя "бяседы"... У калідоры ў абдымках канвойных убачылі аднойчы нашага настаўніка. Спачатку не пазналі: твар сіне-чырвоны, сам на нагах не трымаецца — цягнулі воламі. Ён адно тады і вымавіў: "Жывіце, хлопчыкі, а калі пасталееце — не пакідайце ў бядзе іншых". Больш я ніколі яго не бачыў і не чуў пра яго нічога. А праз шмат гадоў, калі пачалася рэабілітацыя палітычных зняволеных, даведаўся, што ўсю "віну", якой не было, ён узяў тады на сябе... А цяпер я, — уздыхнуў Мацвеевіч, — нават прозвішча яго не памятаю.

Стала ціха. Мацвеевіч адцягнуў, падбіў знізу падушку, хвілін пяць аддыхваўся, маўчаў. Затым з дакорам, па звычцы, кракатануў:

— Таму і працую. Чым магу — дапамагаю... А не дзеля грошай...

— Добра, добра. Супакойся.

— Разумееш, не магу глядзець без болю на маладых. Мянялямі зрабіліся... Спекулянтамі-перакупшчыкамі, рэкецірамі, беспрацоўнымі... Нават самыя ўчэпістыя, удачлівыя жывуць сённяшнім днём. А які ён, дзень гэты, тлумачыць не трэба, паршываму сабаку ясна...

Ад хвалявання Васіль Мацвеевіч зусім аслабеў, і я паспяшаўся развітацца.

А другі раз зайсці да яго не паспеў. Аказваецца, недарэмна ён спяшаўся расказаць мне пра той выпадак. Ведаў Мацвеевіч, што не жылец ён, што не выйдзе з бальніцы. Балела ў яго душа за "хлопчыкаў". І ў ягоным аповедзе чуецца мне цяпер нешта накшталт завяшчання, якое даўным-даўно прагучала для яго з разбітых вуснаў старога вадзіцеля, ягонага настаўніка і выратавальніка. Завяшчанне мне, а мо і не толькі мне. Таму і расказваю пра Мацвеевіча.

## Мой знаёмец Васіль

Адразу і не пазнаў яго, хоць усё такі ж высачэзны — пад два метры, падцягнуты, магутна-сабраны, і твар такі ж, дабрадушна-прасцецкі. Але вось апратка... З дабротнай скуры імпартная куртка, пад ёе колер — мадняцкія штаны з манжэтамі, вішнёвы, тонкай вязкі світэр, лакаваныя, узорыстыя, на рыфлёнай падэшве туфлі. І яшчэ — дайце веры! — ашаламляльны пах дарагога імпартнага дэзадаранту.

— Што?.. "Как денди лондонский одет..."? — быццам чытаючы мае думкі, журботна ўсміхнуўся ён. — Што, не такім спадзяваўся сустрэць?

Я толькі й мэкнуў-бэкнуў штосьці.

Пазнаёміліся мы ў электрычцы. Тады ён і назваўся — "Васіль". Я ехаў з дачы, а ён — "ад бацькоў", дзе "дапамагаў выбіраць бульбачку". Мне ён тады спадабаўся — гэткі добры, лагодны мядзведзь-цяльпук.

Крокаў дзесяць па паркавай дарожцы прайшліся моўчкі. Цішыню парушаў шоргат мінулагодніх лістоў пад нагамі ды недалёкае тромканне азяблае птахі.

— Дзе і кім зараз працую? — перапытаў Васіль, і нечакана пажартаваў: — А што, хіба па мне не бачна?

— "Новы беларус". Мясцовы бізнесмен? А можа... — Я не знайшоў што — "можа".

— Не гадай. Працую ахоўнікам цела.

— Кім, кім?!.

— Добра. Болей даступна — целаахоўнікам у аднаго "новага беларуса". Прафесія — старажытная. Неяк у слоўніку вычытаў: целаахоўнік — гэта воін, які ахоўвае жыццё высокай асобы, правадыра, манарха. Вось як!

І нягучна засмяяўся. Падтрымаў смех і я, ужо ведаючы, што Васіль — просты "сялянскі хлопец", служыў пасля тэхнікума ў дэсантных войсках, пасля дэмабілізацыі рабіў на заводзе, а потым апынуўся на вуліцы — беспрацоўны! Праваландаўся некалькі месяцаў без працы, жывучы выпадковымі заробкамі, пакуль яго не "падабраў" сыценькі нувАрыш-кругляк, не адвёз у свой офіс на "мерсэдэсе".

Праўда, гэтаму папярэднічаў "маленькі" інцыдэнт у супермаркеце, дзе галодны Васіль, дзесьці вычытаўшы перад тым парады амерыканскіх вучоных, бадзяўся ля прылаўкаў і, каб прытупіць голад, удыхаў апетытныя пахі дарагой ежы. Тут ён і ўбачыў свайго будучага шэфа-кругляка. Яго адціснулі ў куток нейкія бамбізы, каб навесці рэвізію ягоных кішэняў і скуранога імпартнага кейса. Нядаўні дэсантнік міжволі заступіўся за слабейшага, тым больш, калі трое нападалі на аднаго. Вынік — слізготны ўдар нажа па Васілёвай руцэ, зваленыя на падлогу грамілы і поўная бяспека бізнесмена на дадзеным этапе.

Гэты выпадак і вырашыў лёс хлопца.

— Напачатку я ганарыўся сваёй новай для мяне пасадай, хоць і аберагаў жыццё не правадыра і не манарха. Бос выдаваў чалавекам нішто сабе. Нуднаваты, праўда, мараліст. Будзе дудзець і дудзець: галоўнае ў жыцці — гэта ўменне працаваць, працаваць, маўляў, не толькі рукамі, але і галавой. Я не стрываю: "Дык гэта заўсёды было. Гэта мы з першага класа праходзілі". А ён: "Заўсёды — ды не заўсёды. Я пры камуняках у чатырох месцах працаваў, а ледзь перабіваўся з жонкай і дзвюма дочкамі, у паўтарачнай "хрушчобе" на апошнім паверсе туліўся. Але ўжо й тады сёе-тое назапасіў, асабліва калі падключыў галаву. Пачаў за бутэльку скупляць у заводскіх несуноў дэфіцытныя дэталі, ездзіць у Тальяці па запчасткі да аўтамабіляў, а пасля перапрадаваць іх з наварам. Карацей, галава, энергія патрэбны..." — "А сумленне?" — наіўненька пытаю. Паглядзеў ён на мяне незадаволена, як на дурня, але — змаўчаў.

— Думка не новая, — сказаў я. — Можна і ў дзесяці месцах гэтак працаваць, але каму патрэбна, акрамя самога сябе, такая праца?

— Мой бацька ўсё жыццё на трактары. Багацця асаблівага не набыў, але дом у яго ладны, шасцярых дзяцей падняў з маці, і было што на стол падаць, што апрануць кожнаму. І павагу-пашану бацька меў. А зараз? Калгас развaліўся, ледзь дыхае. А людзі — горка глядзець на іх, не людзі, а бамжы. Мой сыценькі бос кажа, самі вінаваты, прывыклі да "социалистической уравниловки". А якая, ліха яе, "уравниловка"? Мой бацька ордэнам узнагароджаны, дык не ўсе ж маюць такі...

— Вось бы і сказаў гэта свайму гаспадару. Ці баішся?

— Гэтак ужо і баюся... Тое-сёе ўцяміў ужо. Гэта раней словы ягоныя з разяўленым ротам успрымаў. Наіўны быў. У паездках заўсёды з ім, нібы цень ягоны. Асабліва часта наведвалі ягоныя бензакалонкі і аўтамайстэрні, а таксама піларамы са сталярнымі цэхамі. "Бачыш, колькім людзям працу даў!" — ажно ўсхліпваў ад фанабэрыі мой патрон.

— Вядома ж — дабрадзей, — не стрымаў я. — Вунь гіганты-заводы прастойваюць, звышсучасныя жывёлагадоўчыя комплексы ў заняпад прыйшлі, дзе-нідзе з зямлёй зраўняліся! А гэта нашы крэўныя грошыкі, нашы пот і праца. А колькі тысяч у беспрацоўных ходзяць, у бамжах? Даў працу таму-сяму... Дабрадзеі, каб ім!..

Моўчкі ступаў Васіль, хаваў звездзены сутаргай твар. Заграбаў, касалапячы, як мядзведзь, наскамі модных туфляў лісце. Быў ён па-бізнесменску ўкормлены, багата апрануты.

На павароце да алеі ён загаварыў:

— Не скажу, што ў людзей бізнесу лёгкае, бесклапотнае жыццё. Асабліва, калі ты "гуляеш" па-буйному, а не мітусішся як перакупшчык-спекулянт. Трэба круціцца і круціцца. Дый і падаткі горла зашмаргай сцягваюць. Вось і не праваронь, каб у патрэбны час яе аслабіць, знайсці карысных людзей, атрымаць іх прыхільнасць і падтрымку. Акрамя таго — канкурэнцыя... Мой асабліва не любіў і падазрона адносіўся да замежных прайдзісветаў-інвестараў, хаця і да мясцовых былі амаль тыя ж адносіны.

— Васіль, а чаго гэта ты ўсё гаворыш аб сваім гаспадары ў прошлым часе? З ім нешта здарылася?

— Які чорт яго возьме!

— Дык, можа, ты ўжо не ахоўнік цела? — усміхнуўся я.

На гэта нічога не адказаў Васіль, а працягваў разблытваць клубок сваіх думак:

— Што для іх галоўнае? Грошы, грошы! Нават калі збіраюцца сем'ямі, усё роўна — грошы, грошы... Усё у іх існуе на выгодзе і разліку.

— І адкуль яны павылазілі? — не вытрымаў я. — Яшчэ нядаўна гэткіх і знаку не было. А мо дзе ў ценю, пад аховай элітнаменклатуры, як і яна сама, чакалі свайго часу?

— Мой дык акурат гэткі. Апошнім часам дзеля прыкрыцця ў нейкім "снабе" значыўся. Але найперш сярод сучаснай новай эліты — юрысты-эканамісты, інжынеры, былыя партнаменклатуршчыкі ці дэлегаваныя імі сыны-зяці, бліжэйшыя родзічы. Не надта адукаваныя, колішнія шэрыя мышкі... Мой пры кожным зручным выпадку казыраў, што ягоны бізнес грунтуецца на вытворча-будаўнічай глебе, а не на прымітыўнай куплі-продажы.

— Але, нішто сабе, фрукт! — не вытрымаў я. — А метал, запчасткі, гаруча-змазачныя матэрыялы, лес і шмат што іншае адкуль? Хто ўсё гэта здабывае, вырошчвае, вырабляе? А тыя, хто "сам сябе загнаў" за рысу беднасці, хто прызвычаіўся да "сацыялістычнай ураўнілаўкі"! Хто быў прывучаны і прывык сумленна працаваць, хто ніколі не быў абібокам... Дарэчы, аб чым яшчэ, акрамя грошай, на сваіх вечарынах-сустрэчах размаўляе гэтая публіка? Тэатр, кіно, літаратура, нарэшце, палітыка хвалюе іх?

— Якое там! Ім няма часу хадзіць у тэатр ці кіно. Тэлевізар глядзяць. У рэстараны любяць хадзіць. Пра спонсарства размаўляюць — каб мець падаткавую ці якую іншую выгоду. Канцэрты вядомых эстрадных артыстаў ладзяць, каб на тэлеэкран выйсці, паказацца народу. Мой дык яшчэ школе дапамагаў, дзе яго дочкі вучыліся. Ганарыўся вельмі сваёй шчодрасцю. Пры гэтым задаволена пасміхаўся, паціраў рукі: чым багацейшыя мы — тым багацейшае грамадства.

— Разбагацелі, далей няма куды!

— А калі збіраліся без жонак, — працягваў Васіль, — адно і вярцелася — секс, дзеўкі. Пажадлівыя мужычкі. Кроў ад сытага жыцця кіпіць.

Заўважыў я, што хлопец яшчэ больш пазмрачнеў.

— Дарэчы, ты адзін целаахоўнік у свайго? — спытаў я.

— Днямі ўзяў яшчэ трох.

— А ў афіцыйных дакументах як лічыцеся? Ахоўнікамі?

(Працяг на стар. 12)

## *У Горках — гучныя фанфары*

**Народнаму духавому аркестру пры Горацкім раённым цэнтры культуры — ужо сорак. Праўда, для калектыву такі ўзрост — яшчэ юнацтва. Але аркестр, пра які тут гаворка, ужо вядомы не толькі ў горадзе і раёне, а і на ўсю Магілёўшчыну і нават на ўсю краіну. Ён дыпламант і лаўрэат усесаюзных, рэспубліканскіх і абласных фестываляў мастацкай самадзейнасці, быў удзельнікам Усесаюзнага свята духавой музыкі, прысвечанага 40-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, якое праходзіла ў Мінску...**

**Стварылі аркестр пры канцы 50-х, і першым яго кіраўніком быў Р. Ядрэўскі. Нельга сказаць, што раней у Горках не было духавых аркестраў. Пры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі яны ствараліся неаднаразова, але ж не былі даўгавечнымі. Можа, і ў гэтага, створанага на базе музычнай школы, было б такое ж кароткае жыццё, калі б у 1959 г. яго кіраўніком не стаў тады малады дырэктар гэтай школы Барыс Круглікаў.**

**Выдатны музыкант, ён прайшоў добрую школу духавога аркестра Магілёўскага музычнага вучылішча, выхаванцам якога быў, а ў час вайсковай службы — і палкавога аркестра. Ды і арганізатар умелы. Сам ён не перааацэньвае ўласныя заслугі, хаця яны і вялікія, а лічыць, што без аркестрантаў, без салістаў, без самаадданай працы кожнага не было б цяперашніх поспехаў калектыву. З гэтым можна і пагадзіцца, але талент кіраўніка і ў тым, што ён дапамагае кожнаму раскрыць сябе, заахвочвае людзей і ўтрымлівае такі доўгі час пры любімай справе.**

**Аснова цяперашняга аркестра — яго першыя ўдзельнікі, былыя школьнікі, а сёння ўжо сталыя і паважаныя людзі: Л. Аніхоўскі, Я. Банны, І. Кузняцоў. З першых гадоў заснавання аркестра ў ім удзельнік Вялікай Айчыннай вайны М. Була, а таксама А. Купрыянаў. Сярод ветэранаў калектыву — М. Кацуба, В. Малочка, А. Башарымаў, Г. Трошын. Вядучымі выканаўцамі за апошнія дзесяць гадоў сталі А. Бялясаў і А. Шэлепаў. Дасягненні звязаны з імёнамі і "новай хвалі": гэта І. Гайдаш, С. Дубік, В. Жаранкоў, А. Салдаценкава, С. Татур, Э. Хайкін, У. Ядрэўскі...**

**Аркестр быў і застаецца адным з галоўных удзельнікаў многіх святочных канцэртаў у Горках і нават у Магілёве, таму без салістаў-вакалістаў ён, напэўна, не атрымаў бы такога вялікага прызнання ў гледачоў, якое мае сёння. У рэпертуары, апроч вакальных, — шмат маршавых, танцавальных, канцэртных твораў, ёсць і класіка.**

**На трох апошніх аглядах-конкурсах народных духавых аркестраў Магілёўскай вобласці калектыў станавіўся пераможцам — гэта вынік сур'ёзнай працы аркестра і яго кіраўніка над рэпертуарам, над паляпшэннем майстэрства. Дарэчы, апошнім часам больш увагі ўдзяляецца ўвасабленню асобных штрыхоў, характару, дынаміцы твораў. І гэта дае падставы меркаваць, што лепшыя п'есы аркестрам яшчэ не сыграныя...**

**Андрэй ПУГАЧ,**
**старшы выкладчык Беларускай сельгасакадэміі, саліст аркестра**

## *"Слонімскія каляды"*

**У канцэртнай зале Цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці г. Слоніма нядаўна адбыўся святочны дабрачынны вечар паэзіі "Слонімскія каляды". У ім прынялі ўдзел прафесійныя і самадзейныя паэты: мясцовыя — Сяргей Чыгрын, Наталля Панамарова і сталічныя госці — Глеб Артханаў, Галіна Дубянецкая, Людка Сільнова, Сяржук Мінскевіч, Уладзімір Каранной і Генадзь Бардышаў. Паслушнік Жыровіцкага манастыра брат Алег (Бембель) прадэкламаваў свае вершы духоўнага зместу. Некалькі беларускіх народных песень выканала са сцэны Галіна Кавальчук, мясцовая спявачка і збіральніца музычнага фальклору краю.**

**Акрамя юных творцаў — школьнікаў г. Слоніма і іх бацькоў, у зале прысутнічалі прадстаўнікі гарадской улады, мясцовай праваслаўнай царквы і навучэнцы Жыровіцкай духоўнай семінарыі.**

**Мэтай дабрачыннага вечара быў збор сродкаў на развіццё дзіцячай і юнацкай творчасці і на выданне літаратурна-мастацкага альманаха "Жыровіцкая абіцель".**

**Л. С.**

ВАНДРОЎКІ

# "З Новым годам!" пад водар лілеяў

***Перакладчык Міхал Іванавіч прызвычаіўся да падарожных неспадзевак. Але такое ён бачыў упершыню. І нават збянтэжыўся-занепакоіўся: няўжо нейкіх выпадковых людзей у калектыў набралі? Дырыжор жа за ўсю чатырохдзённую дарогу, здаецца, так і не выйшаў з аўтобуса: у нотах корпаўся, клікаў да сябе музыкантаў, то з адным, то з другім гаварыў пра нейкія нюансы, рытм, тэмпы...***

***А праз колькі часу ад усялякіх трывог не засталося і знаку: яны проста патанулі ў хвалях авацый захопленай іспанскай публікі, у бясконцых падзяках ашчадлівага на ўхвалу імпрэсарыо, чыя кар'ера набыла добрую перспектыву ў выніку паспяховых, на высокім узроўні, выступленняў беларускага калектыву.***



Было іх 16 — канцэртаў, з якімі выступіў у Іспаніі вядучы музычны калектыў нашай краіны, Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр. Ён з лёгкай рукі свайго мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Генадзя Праватарава (і з удзелам незвычайных творчых партнёраў, пра якіх — пазней) падрыхтаваў да гастроляў чатыры складаныя і эфектныя праграмы. Тут і Чацвёртая сімфонія Брамса, і "З Новага Свету" Дворжака, і Чайкоўскі — "Франчэска да Рыміні", "Рамэо і Джульета", "Элегія", "Серэнада для струннага аркестра", і Рыхард Вагнер, і Ёган Штраус...

Прытым, што ўвесь рэпертуар быў "адпрацаваны" ў мінскіх снежаньскіх канцэртах, маэстра выпраўляўся на гастролі, як ён сам казаў, "з адчуваннем стрэсу гэтай мастацкай сітуацыі". Бо іспанскі праект быў прапанаваны аркестру, што называецца, у апошні момант, праграмы, сыграныя ў роднай філармоніі, прагучалі, на думку маэстра, "сыравата", да таго ж, умовы кантракта і спецыфіка музычнага жыцця паўднёвай краіны вымагалі пэўнай карэкцыроўкі нашых акадэмічных выканаўчых традыцый. У такой сітуацыі заставалася толькі ўсцешыцца, што абмежаванасць грашовых сродкаў на арганізацыю вандроўкі не дазволіла набыць для маэстра білет на самалёт, як таго вымагаюць нормы еўрапейскай цывілізацыі, што ён мусіў дзяліць радасці доўгага аўтападарожжа разам з усімі — гэта ж дало магчымасць аж чатыры дні "рэпецірававаць на колах", падтрымліваць творчую форму!

**— Было цудоўнае мастацкае перажыванне, калі мы пачалі граць сваю першую гастрольную праграму, — расказвае Г. Праватараў. — Гэта было ў храме. Яго незвычайная саборная акустыка дала магчымасць зрабіць незаўважным недахоп струнных інструментаў (умовы кантракта абмежавалі наш колькасны склад). Больш за тое: эфект быў такі, нібыта гучалі два аркестры! Артысты адразу ж адчулі гэта, "расправілі крылы" і... нібыта пачалі граць на самой гэтай акустыцы! З'явіліся дзівосныя абертоны, і тут дырыжор мог рэалізоўваць нечаканыя мастацкія намеры. Першы канцэрт прайшоў выключна ўдала, залу ўдалося ўзрушыць, нас віталі стоячы... Імпрэсарыо (і сам, дарэчы, музыкант) маэстра Саад выказваў нечаканасць нейкіх новых для сябе ўражанняў... Гэта дало добры пасыл на ўсе гастролі.**

Вандроўка ладзілася паводле знаёмай беларускім калектывам і досыць напружанай схемы: пасля канцэрта — ноч у дарозе, раніцай — новы горад, размяшчэнне ў гатэлі, рэпетыцыя, выступленне, а ці не адно, зноў — аўтобус, ноч, дарога... Вядома, у кожнай "тэхнічнай схемы" бываюць і свае нюансы. Камусьці давялося вылучыць хвілінку і паназіраць за прылівам на беразе Біскайскага заліва: кажуць, для саміх іспанцаў гэта рытуальнае відовішча, накшталт карыды. Хтосьці паспеў зазірнуць у крамы. Музыканты — не турысты, іхняе знаёмства з краінай адбываецца пераважна праз публіку. І такая стракатая была яна ў розных вечаровых залах — Іспанія, з якой знаёміліся нашы працаўнікі-вандроўнікі.

Выступалі, напрыклад, у буйным храме Мадрыда — Сан-Хераніма. Гэта і вядомы культурны цэнтр, у якім, дарэчы, праходзіў VIII фестываль "Musica en Navidad", удзельнікам якога стаў і калектыў з Беларусі. Дарэчы, святы Еронім, чыё імя нададзена храму, апякуецца каралеўскай сям'ёй Іспаніі, і музыкантам нашым казалі нават, каб не бянтэжыліся, калі раптам хтосьці з прадстаўнікоў высакароднай дынастыі наведаецца ў свой "фамільны" сабор.

Сталіца Іспаніі прымала ўдзельнікаў музычнага фэсту і ў буйным цэнтры культуры, зале "De la Villa". А ў Барселоне, што лічыцца "другой сталіцай", таксама былі раскошныя і прэстыжныя ўмовы.

Што і казаць, адны толькі назвы гучаць казачнай музыкай: "Oviedo", "Campoamor"... Элітная публіка, багаты інтэр'ер, чарадзейны водар жывых лілеяў, якімі шчодра была ўпрыгожана зала... І выступленне вось у гэтай, шыкоўнай, аздобленай жывымі лілеямі, зале — у ноч сустрэчы Новага года... І прысутнасць прадстаўнікоў каралеўскай сям'і... А яшчэ — зала ў Сарагосе на 2 тысячы месцаў, аздобленая хвалёвай драпіроўкай, што стварае адчуванне дзівоснай чысціні гуку. Камфортныя залы ў Більбао, у Пальплоне, у Сан-Себасцьяне...

Аднак, ці не час пагаварыць пра тых, каму давялося разам з артыстамі аркестра

ФЕСТЫВАЛІ

# Рок-каранацыя — традыцыі і сучаснасць

Раз на год рок-н-рольныя колы краіны праводзяць фестываль "Рок-каранацыя". Сёлета ён ладзіўся пяты год запар.

Непасрэдна імпрэза праходзіла ў канцэртнай зале "Мінск" толькі суботнім вечарам, але працяг яе (альбо, калі заўгодна, наступствы) у нядзелю, прынамсі, у музыкаў, падавалася натуральным і нават непазбежным. Нягледзячы на тое, што сёлетнім атрыбутам "Рок-каранацыі" быў вялікі, ёмістасцю прыкладна ў пяць літраў, келіх, які арганізатары пастаянна шчодра напаўнялі кефірам, а дэвізам — словы "За здаровы драйв!", асартымент напояў, што толькі на сцэне былі падораныя музыкам, выглядаў багатым. Адна "Крама" ў дадатак да пуцёвак у Дом творчасці і адпачынку "Іслач" займела скрыню шампанскага. Так што пра кефір той, здаецца, паклапаціліся загадзя нездарма.

Тое, што рок у нас зараз у росквіце — відавочна. Напрыклад, у тым жа хіт-парадзе на Беларускім тэлебачанні на працягу ўсяго мінулага года першыя месцы займалі і ўвогуле пераважалі колькасна менавіта рок-гурты. І калі раней актыўнасць беларускіх рок-музыкаў была фрагментавай, то зараз працэс канцэртаванняў і выдання касет пераўтварыўся ў пастаянны. З'явілася нават кампакт-дыскі і разнастайная атрыбутыка. А не паспеў прамінуць толькі месяц года новага, як гурт "НРМ" ужо прэзентаваў чарговы ўласны альбом "Пашпарт грамадзяніна НРМ". Гэтаксама і "Крыві". Значыць, ужо зараз можна гаварыць, што на наступным шостым фестывалі "Рок-каранацыя" журы будзе з чаго выбіраць.



*Каранацыя лідэра "Нейро дюбеля" Сяргея Кулінковіча.*

Як прадбачылася, лепшым гуртом краіны за 1998-ы год стаў панкавы "Нейро дюбель", які атрымаў яшчэ і перамогу ў намінацыі "Альбом года" ("Охотник и сайгак"). Стварэацца пэўная тэндэнцыя ў выяўленні тутэйшых рок-каралёў: чаргуюцца беларускамоўныя і небеларускамоўныя гурты. Дагэтуль было пароўну ("Крама" і "НРМ" чаргаваліся з "Рублёвой зоной", англамоўнай, і "Ляписом Трубецким"). І вось зараз рускамоўны "Нейро дюбель". Тады, паводле вышэйвыведзенай мажлівай заканамернасці, у наступным годзе Гран-пры авалодае зноўку гурт, які спявае па-беларуску. Дарэчы, задумвалася ж "Рок-каранацыя" менавіта як узнагароджанне выбітных беларускамоўных рок-калектываў.

Уявім сабе, што гэтак яно і засталося. Дзеля цікавасці і эксперыменту: якім чынам прысутнічае ўласна беларускасць у рок-музычнай айчыннай прасторы? Тым больш, што ёсць значная рацыя ў думцы, што рок-

## У працяг добрай традыцыі

ЧИСЛО
ЯЗЫК
ТЕКСТ

**На апошнія гады XX стагоддзя выпалі шматлікія юбілейныя даты ў жыцці слынных вучоных-мовазнаўцаў Беларусі. Прыемна, што ўшанаванні юбіляраў у многіх выпадках сталі суправаджацца праведзеннем навуковых канферэнцый, семінараў, выданнем бібліяграфічных даведнікаў, зборнікаў арыгінальных прац. Гэтую добрую традыцыю працягваюць і дзве новыя кнігі, што выйшлі напрыканцы мінулага года.**

**Першая з іх — "Число. Язык. Текст." — уяўляе сабой зборнік артыкулаў да 70-годдзя А. Супруна. Імя гэтага двойчы доктара навук добра вядома як на Беларусі, так і далёка за яе межамі. На рахунку вучонага — каля 600 друкаваных прац, сярод якіх больш як 60 (!) кніг і брашур, пад яго кіраўніцтвам выканана каля 70 кандыдацкіх і 10 доктарскіх дысертацый.**

**Зборнік невыпадкова атрымаў такую назву. Прафесар А. Супрун з першых навуковых крокаў захапіўся катэгорыяй ліку і непасрэдна лічэбнікам, яго капітальныя манаграфіі на гэтую тэму сталі класічнымі даследаваннямі ў сусветнай лінгвістыцы і з'явіліся зыходнай асновай распрацоўкі арыгінальнай тэорыі часцін мовы ў славянскіх мовах. У артыкулах і навуковых нататках даследчыкаў з Масквы, Кіева, Санкт-Пецярбурга, Тарту, Бохума (Аўстрыя), Адэсы, Алматы, Арла, Варшавы і іншых гарадоў, вучняў і паслядоўнікаў А. Супруна з Беларусі разглядаюцца самыя розныя бакі ліку як фундаментальнай катэгорыі свядомасці і мовы, аднаго з важнейшых складнікаў міфалогіі, календара, граматыкі, стылістыкі. Завяршае зборнік бібліяграфія асноўных кніг і брашур А. Супруна.**

**Добра вядома ў навуковых і педагагічных колах Беларусі і імя прафесара Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта Г. Малажай. Галіна Мікалаеўна была першай, хто з лёгкай рукі свайго навуковага настаўніка Фёдара Янкоўскага пачаў распрацоўваць такую ніву моўнага феномена мастацкага тэксту, як перыфраза. Выдадзены ў 1974 годзе слоўнік, а пазней грунтоўная манаграфія "Сучасная беларуская мова. Перыфраза" (1980) прынеслі чытачу, па словах рэцэнзента М. Тондзеля, "светлую радасць сустрэчы з вобразным, самабытным, гаваркім словам, радасць адкрыцця неацэнных скарбаў, нязгасных дыяментаў роднай мовы". Як каштоўнейшую скарбніцу фактычнага матэрыялу ацаніў слоўнік "Беларуская перыфраза" Рыгор Шкраба. Ніводная з кніг Г. Малажай не была абдзелена ўвагаю рэцэнзентаў. Вучоныя Германіі, Украіны, Венгрыі, даследчыкі з Расіі, навукоўцы Беларусі адзначаюць першапраходны характар яе даследаванняў, імкненне па-новаму асвятліць раней вядомыя факты мовы.**




**Навуковае выданне "Святло сакавіцкага слова" і сапраўды з першай і да апошняй старонкі сагрэта святлом і цеплынёй, шчырасцю павагі і любові да Г. Малажай. У зборніку змешчаны асобныя фатаграфіі, цікавыя назіранні і ўспаміны юбіляркі пра блізкіх і родных людзей, вытрымкі з асобных лістоў Ф. Янкоўскага да сваёй аспіранткі. Два апошнія раздзелы ўтрымліваюць навуковыя даследаванні паплечнікаў і аднадумцаў Галіны Мікалаеўны з розных гарадоў Беларусі, Аўстрыі, Венгрыі, Літвы, артыкулы яе вучняў і паслядоўнікаў.**

**М. ПРЫГОДЗІЧ**

"ЛіМ"—ФОТА

*І мне з самім сабою жыць,*
*Які ўжо ёсць я,*
*дзе тут дзецца...*
*Жыць,*
*як шчаслівае смяецца,*
*Жыць,*
*як балючае баліць.*

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ



*Фота Г. Жынкова*

# АПОВЕДЫ-БЫЛІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

— Не. Я, напрыклад, шафёр. Ёсць рэферэнты, саветнікі.

— Багацее, тлусцее твой гаспадар... Васіль як не даслухаў, перабіў:

— Забіваюць іх, шантажыруюць, у заложнікі дзяцей, жонак бяруць...

— Таму, хлопец, і туга ўзяла? — пытаюся.

— А пайшло яно!.. Два гады — кату пад хвост...

— Чым жа ўсё ж не дагадзіў табе твой суверэн? — жорстка пытаю.

— А пайшоў ён!.. Узяў на працу хлопца і дзяўчо, студэнтаў. Узяў рэферэнтамі. Але ў фірме іх не відаць, ва ўладаннях баярскіх — таксама... З'яўляюцца ў кабінет, калі жонка з дочкамі куды-небудзь ад'язджаюць. Аказваецца, "рэферэнты" займаюць любоўю перад яго вачыма — такая дамоўленасць. Немалыя грошы за гэта атрымліваюць. Маладзёнам жыць трэба! А мараль? Якая зараз мараль! Парнаграфія відэакасетная яму прыелася, больш смакавітае падавай... За долары ўсё можна!

— І ты сам паскудства гэтае бачыў?

— Бачыў. Сам запрасіў на відовішча. Чаму — не ведаю... Але пасля таго не змог я болей заставацца ў яго...

Такая вось гісторыя Васіля, беларускага хлопца.

Праз тыдзень я пазваніў яму. Адказалі: жылец з'ехаў. Куды? На другім канцы прагучала: "Адраса ён не пакінуў..."

### Жалезная кветка

Базарчык прыляпіўся да невялікай станцыі Баранавіцкага накірунку, за чыгуначнымі пуцямі на ўскрайку райгарадка. Цесны, шумны, мітуслівы — як і ўсе падобныя базарчыкі. Мусіць, я прайшоў бы міма, калі б не гэтыя няпэўнага ўзросту, бамжысты прадавец, а дакладней — ягоны тавар. У расчыненым старэнькім куфэрку на саматканым ручніку ярка пабліскваілі, адлівалі фарбай бляшаныя кветкі на драцяных сцяблінах. Было там яшчэ нешта накшталт месяцаходаў, нейкіх смешных пачвар, але — кветкі, кветкі... Я стаў, як укапаны, не маючы сілы адвесці позірк. Кветкі нагадвалі мне нешта даўняе, але — што?..

Я падняў урэшце вочы на гандляра. Мужчына таксама зірнуў на мяне. У ягоных вачах стыла нейкая непрагляднa-цёмная журбота, а на схудняным бледным твары прамільгнулі прыгнечанасць, збянтэжанасць, нейкае горкае прыніжанае самалюбства калісьці моцнага, упэўненага ў сабе чалавека...

Я пайшоў прэч, але думаў пра кветкі... Ну, вядома ж, мы ж раней сустракаліся! Кветкі... Бляшаныя, жалезныя кветкі... Жалезныя! Быццам з далечы-далечыні прагучаў голас: "Быў я тады зусім хлапчуком. Сярод сваіх аднагодкаў вызначаўся, можа, толькі высокім ростам ды худзізнай. Ну і дужасцю. Таму і пусцілі ў кузню на ўскрайку нашай вёскі. Там і прыахвоціўся да металу. А магчымасці кавальскай справы, разумееце, упершыню дапамог адчуць адзін выпадак..."

"Кветкі бляшаныя, кветкі..." — трывожна, як птушка ў клетцы, білася думка ў галаве. На скрыжаванні вуліц павярнуў назад, да базарчыку. Успомніў раптам старую, тады ж пачутую, гісторыю пра дзяўчынку, якая плакала таму, што нехта раздушыў кветачку — на зямлі ляжалі белыя пялёсткі і жоўтая сарцавінка рамонка. Тады і ўбачыў яе Сцёпа. Супакойваючы, сказаў: "Не плач. Я другую табе зраблю. Жалезную. Яе ніхто не раздушыць". І слова стрымаў. А потым, праз шмат гадоў, яны сталі мужам і жонкай. Аднойчы ў час камандзіроўкі я пазнаёміўся з імі. Яны расказалі мне пра той выпадак. Збіраў я тады матэрыял для нарыса пра калгаснага механіка Сцяпана Млынава. Было гэта гадоў дваццаць таму...

Вось і прывакзальны базарчык. Але — гандляра з цацкамі ўжо не было.

— Не бачылі тут мужчыну? З куфэркам... Цацкі, кветкі бляшаныя прадаваў... — папытаў я ў кабеты, ля якой акурат ён і стаяў.

— Быў ды сплыў. Сабраўся і пайшоў. Цацкі свае ён амаль задарма аддаваў. Дзівак дый годзе! А што не прадасць, дык дзятве падорыць. А сёння нечага разнерваваўся і сышоў. Дзівак ён і ёсць дзівак. А можа, жыццё наша паскуднае да дзівацтва даводзіць, га?.. Гэта ж па тэхніцы быў першым чалавекам у раёне. У газетах пра яго пісалі, партрэты друкавалі, зараз... Ох, да чаго жыццё даводзіць!..

Пайшоў я зноў прэч, а думаў усё пра тое ж. Успомніў, як двое сутак мерзнуў у халоднай гасцініцы, каб перачакаць завіруху, пакуль з калгаса прыслалі каня, запрэжанага ў сані, і вялізны цёплы кажух.

Да калгаса дабраліся ўжо ў прыцемках. Са Сцяпанам Іванавічам, лічы, прагаварылі да раніцы. Колькі было планаў, колькі веры і надзеі ў свой сённяшні і заўтрашні дзень! Выпускнік Жыровіцкага тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі, ён мысліў шырока, па-дзяржаўнаму. Упэўніўся ў гэтым я і назаўтра — і ў майстэрні, і на машынным двары, і на полі, куды скрозь снежныя заносы трактарысты вывозілі торфакрошку, і ў жывёлагадоўчым гарадку — Млынаў усюды быў патрэбным, жаданым чалавекам.

У жывёлагадоўчым гарадку мне пакалі стары зварачны апарат і не без гонару сказалі: "Працуе, як новы. А ўжо валяўся ў кучы металалому, без электраматора, Іванавіч раскапаў, выцягнуў, некалькі дзён корпаўся, прыкідваў, маляваў на паперцы схемы. А сабраў спецыяльнае прыстасаванне да раменнай перадачы, прыстасаваў іншы электрарухавік — апарат каторы год з тае пары працуе..."

Даведаўся я, што Сцяпан Млынаў дасканала валодае не толькі аўтамашынай, трактарам, камбайнам, прычапной тэхнікай, але добра ведае й справу слесара, электразваршчыка, токара. А рацпрапаноў ягоных — і не злічыць.

Увечары я ад'язджаў. Сіняватымі іскрынкамі прабліскваў снег. Развіталіся ля школы. Аказваецца, тут быў вучэбны камбінат, дзейнічалі курсы трактарыстаў-шафёраў. Затрымаўшы маю руку ў сваёй, Млынаў сарамліва сказаў: "Выкладаю вось... На грамадскіх пачатках. Хаця і сам вучуся завочна ў Горацкай акадэміі..."

З тае даўняй пары я яго так і не бачыў. І вось — сустрэча.

"Што ж адбылося ў ягоным жыцці? Што здарылася?.." — свідравала мозг думка. Высветлілася ўсё нечакана, а калі праз некалькі месяцаў выпала пабываць у знаёмым райгарадку. Ногі самі сабой прывялі мяне на бойкі базарчык. Але — героя свайго даўняга нарыса тут не было. Узнікла думка: з'ездзіць у Залессе. Аўтобус туды не хадзіў. Выйшаў на гравійку, перахапіць якую машыну. Пашанцавала. Спыніўся "Запарожац" — дабіты настолькі, што, здавалася, вось-вось развaліцца. Гаспадар яго, пажылы, інтэлігентнага выгляду мужчына, стомлена ўсміхнуўся:

— Дажываем. Як кажуць, дабіліся да ручкі. — Памаўчаў і, адкашляўшыся, працягваў: — Я настаўнік, а вы, мушу думаць, карэспандэнт? Толькі — што ў нашым Залессі рабіць? Некалі грымеў калгас, а зараз — дагрымеўся...

Паехалі. Машына колькі разоў "спатыкалася", але — зноў чмыхала і паўзла наперад. Гаспадар-вадзіцель, усё з той жа цяжка-сумнай усмешкай на сухіх вуснах, працягваў свой аповед:

— Адзін са "скараспелых" гаспадарку ўрэшце прыняў. Дык як прыняў, так і дабіў канчаткова. Бачыце, меней засеяць — больш ураджай сабраць... Глупства! А тут яшчэ — адсутнасць ільготных крэдытаў, парытэту цэн, нявыплата зарплаты, пустая каса... Было ў калгасе прыкладна пяцьдзесят адзінак тэхнікі, а зараз засталося ўсяго два камбайны. Тры трактары ды адна аўтамашына. А новую тэхніку няма за што купіць...

Гаспадар "Запарожца" ўрэшце запытаў:

— А вы па якой прычыне да нас? Самі ці па "сігнале"? Калі, вядома, не сакрэт...

Я адказаў:

— Хачу пабачыць Млынава...

Устанавілася мёртвая, цяжкая цішыня. На ўскрайку сяла ля могілак спыніліся. Пясчанай сцежкай падышлі да магілы.

— Месяц назад... Афіцыйная версія — няшчасны выпадак: паляўнічую стрэльбу чысціў. Аднак упэўнены, што гэта не так? Ён страціў веру ў сённяшні і заўтрашні дзень. Перастаў нечага свайго чакаць. А калі няма чаго чакаць, чалавеку цяжка жыць...

На жоўтым грудку магілы ляжала адна-адзіная кветачка — бляшаная рамонка на драцяной сцяблінe.

# "Гэта Мы": пачатак традыцыі?

## СУБ'ЕКТЫЎНЫ АНАЛІЗ БЕЛАРУСКАГА БАРДАЎСКАГА РУХУ

СПРОБЫ ЛАДЗІЦЬ беларускамоўныя фестывалі аўтарскай песні распачаліся ў 1990 годзе. На зямлі Беласточчыны, амаль на польска-беларускай мяжы ля Гарадка адбыўся фестываль "Басовішча", якому наканавана было стаць штогадовым. Але няўхільнымі на ім сталі дзве тэндэнцыі. Па-першае, бардаў з кожным разам было ўсё менш, усё больш — рок-каманд. Па-другое, усё менш было беларускай мовы.

Пэўная альтэрнатыва "Басовішчу" — "Бардаўская восень" у Бельску-Падляшскім на той жа Беласточчыне нарадзілася напрыканцы 1994 года. Фестываль таксама стаў штогадовым і здолеў пакуль захаваць беларускасць, але, як і ў Гарадку, бардаў з цягам часу выціснулі рок-каманды. У фестывальнай праграме-98 выступілі толькі тры барды — ды і тыя былі запрошаныя хутчэй за мінулыя заслугі.

На Беларусі першы бардаўскі фэст наладзіла ў жніўні 1991-га група энтузіястаў з Оршы. На гістарычным Крапівенскім полі быў разбіты палатачны лагер, усталявана гукаўзмацняльная апаратура, распалена вялізнае вогнішча. На запрашэнне ўзяць удзел адгукнулася некалькі мінчукоў (сярод якіх — бард Зміцер Сідаровіч і сябры Задзіночання Беларускіх Студэнтаў), жодзінец Кастусь Герашчанка ды Лера Сом з Полацка — пяць бардаў і дзесяткі тры гледачоў.

Аднак і гэтая ініцыятыва атрымала штогадовы працяг. У 92-ім колькасць бардаў вымяралася тут ужо дзесяткамі, а гледачоў — сотнямі, у 93-ім — да бардаўскага асяродка далучыўся першы рок-гурт ("Камелот"), а ў 95-м рок- і бард- праграмы занялі прыкладна аднолькавую колькасць часу. Надалей фэст "Аршанская бітва" пад уплывам палітычнай сітуацыі перастаў рэкламавацца і асвятляцца ў сродках масавай інфармацыі ды паступова "перайшоў на нелегальнае становішча", дзе не прадугледжана гукаўзмацняльная апаратура. Але традыцыя жыве.

Мінск стаў чацвёртым месцам, дзе паспрабавалі рабіць беларускія бардаўскія фэсты.

1993 год... З першай жа радыёперадачы, прысвечанай будучаму фестывалю, робіцца зразумелым, хто будзе абвешчаны пераможцам так званага конкурсу. Сам фестываль адзначаецца новымі імёнамі, многія з якіх надалей так па-бардаўску і не прагучаць, а таксама няшчырасцю арганізатараў.

1994 год. Першы фестываль беларускай аўтарскай песні "Залатая горка". Гучаць гармонік, піяніна і кан'юнктура. Журы конкурсу так і не прыходзіць да паразумення, ды і якое можа быць паразуменне, калі, напрыклад, адзін з маскоўскіх членаў журы прад'яўляе на аплату квіток з "Боінга" ды патрабуе выдаць у некалькі разоў большы ганарар, чым яго калегу з Украіны.

1995 і 1996 гады... Фестывалі аўтарскай песні "Мінск" ладзяцца старшынёй літаратурна-мастацкай суполкі Задзіночання Беларускіх Студэнтаў Кастусём Елісеевым пры падтрымцы Фонду Сораса. Ніякага конкурсу няма. Ёсць беларускамоўныя і рускамоўныя дні. За аснову ўзята канцэпцыя каманды — удзельнікі фестывалю знаходзяцца ў добрых і досыць блізкіх стасунках паміж сабой і, самае галоўнае, — з арганізатарам.

Мне пашанцавала ўвайсці ў лік арганізатараў яшчэ аднаго пачынання — фестывалю "Гэта Мы", які прайшоў у сталічным Палацы прафсаюзаў 20—21 кастрычніка 1998 года. На маю думку, падмурак для бардаўскай беларускай фестывальнай традыцыі ў Мінску нарэшце быў закладзены трывалы. Бадай, упершыню беларуская аўтарская песня акрэсліла сябе ва ўсёй палітры: з пачынальнікамі, прадаўжальнікамі, спадарожнікамі, кансерватарамі і дысідэнтамі.

●

Пра магчымасць і жаданне правесці фестываль беларускіх бардаў абвясціла на пачатку восені 98-га малавядомае шырокаму беларускаму грамадству, але досыць уплывовае Задзіночанне Беларускіх Студэнтаў (варта сказаць, менавіта яно прадстаўляе Беларусь у ESIB — Міжнацыянальных студэнцкіх саюзах Еўропы, мае свае суполкі, акрамя РБ, яшчэ ў Варшаве і Лондане, агульная колькасць сяброў Задзіночання — за тысячу, у складзе — інтэлектуальная і адукаваная студэнцкая моладзь, многія сябры ЗБС ужо сёння з'яўляюцца высокімі спецыялістамі ў галінах сваёй прафесійнай дзейнасці).

Канцэпцыя фестывалю — прадставіць тых аўтараў, якія выявілі сябе ў беларускай аўтарскай песні, паказаць, вобразна кажучы, увесь кацёл, у якім беларуская аўтарская песня варыцца сёння.

Свята, збольшага, удалося. Дваццаць дзевяць прадстаўнікоў усіх рэгіёнаў Беларусі праспявалі тое, што лічылі патрэбным. Нейкіх абмежаванняў ці папярэдняга ўзгаднення тэматыкі не было. Такі свабодны выбар толькі паспрыяў сяброўскай атмасферы імпрэзы.

Ампірны Палац прафсаюзаў быў абраны для фестывалю заканамерна. Пры пэўных недахопах у акустыцы ён добра адпавядае менавіта святочнасці нараджэння. Тут і псеўдаантычныя калоны на сцэне і чырвоная стужка паміж імі глядзеліся цалкам натуральна. І перараэаць яе павінен быў, вядома ж, пачынальнік.

●

Напаўлегендарны сёння спявак беларускіх песень Сяргей Новік-Пяюн, на жаль, не меў вядомых нам пераемцаў-прадаўжальнікаў. Пра нейкае падабенства з'яўлення традыцыі беларускага "шансону" можна казаць хіба што з сямідзесятых гадоў, калі на поўную моц заззялі "Песняры", узняўшы хвалю імітатараў-паслядоўнікаў. Чалавек з гітарай, які спявае па-беларуску, у кантэксце творчасці "Песняроў", а пасля "Сяброў" і "Верасоў", стаў выглядаць цалкам натуральна і нават прыгожа.

У далёкай Амерыцы прыкладна ў той жа час выйшаў на сцэну малады хлопец Багдан Андрусішын, стаўшы пазней культавай асобай, вядомай як Данчык. "Песняры" пазнаёміліся з ім падчас амерыканскіх гастроляў, і неўзабаве сцэнічныя іміджы саліста "Песняроў" Леаніда Барткевіча і Данчыка мала ў чым розніліся.

І Барткевіч і Данчык спявалі напісанае не імі, але сама форма падачы беларускай песні была менавіта бардаўскай і, несумненна, зрабіла ўплыў на ўзнікненне і развіццё беларускага бардаўскага руху.

А свае беларускамоўныя песні заспявалі ў тых жа сямідзесятых два досыць мажорныя паляшуцкія хлопцы, імправізуючы на адным фартэпіяна. І такім чынам сталі рэальнымі бацькамі беларускага бард-руху. Так сталася, усе беларускія бард-агеньчыкі амаль дзесяцігоддзе пасля гістарычнай сустрэчы гэтых двух хлопцаў, запальваліся ці ў Мінску, ці на Палессі. І ўсе гэтыя людзі з гітарамі былі знаёмымі кагосьці з гэтых юнакоў. Хлопца з Заходняга Палесся звалі Вінцук Вячорка, хлопца з Усходняга Палесся — Сяргей Дубавец.

Вінцук Вячорка і перарэзаў чырвоную стужку нованароджанага фестывалю. А першую песню праспявала, вядома ж, паляшучка — наймаладзейшая з удзельніц фестывалю, студэнтка беларуска-англійскага аддзялення філалагічнага факультэта Гомельскага універсітэта Наталля Дзенісюк.

Пачынальнікаў беларускай аўтарскай песні з гітарай таксама было два: Алесь Шпакоўскі з-пад Смалявіч і Эдуард Акулін. Алесь выступаў на пачатку першага фестывальнага дня, Эдуард — завяршаў фестываль.

Філасофская адукацыя Шпакоўскага моцна адбіваецца ў яго тэкстах. Алесь моцна хваляваўся і шмат гаварыў, што зусім не дзіўна пасля доўгага перапынку ў выступах. У песнях філосафа (і сучасных і даўніх) адчуваюцца настроі памежжа 70-х — 80-х: рамантызм, энтузіязм, роспач. Не ведаю як успрымае Шпакоўскага сучасная моладзь, для мяне ён — адбітак свайго часу, свайго пакалення.

Эдуард Акулін — таксама адбітак свайго пакалення. Але ў адрозненне ад Шпакоўскага, ён не меў вялізнага перапынку ў выступах. Таму — гаварыў няшмат. Але і спяваў, як падалося шэрагу слухачоў, замала.

Акулін, пад уплывам якога калісьці заспяваў Сокалаў-Воюш, — досыць арыгінальная постаць у беларускай песні і паэзіі. Пачаўшы з рок-гурта "Баскі" (разам з Алесем Бяляцкім) ён прайшоў затым некалькі грунтоўных зменаў іміджу і зараз спявае тое, што можа зрабіцца эстраднымі хітамі, пры адпаведнай раскрутцы. Хтосьці гэтыя рэчы заве кан'юнктурай і ўвогуле кажа, што Акулін вычарпаўся. На маю думку — не ўсё так проста. Эдуард, як творчая асоба, часам робіць рэчы нестандартныя і нярэдка з таго выйграе. Падазраю, хутка можна чакаць чарговага "выбрыку".

Алесь і Кася Камоцкія... Заспявалі па-беларуску ў 1982-м. Алесь Камоцкі — філосаф, выключаны з універсітэта падчас адной палітычнай кампаніі. Спакойная, лірычная манера выканання. Часам, шматслойны падтэкст. На такую песню заўжды знойдуцца прыхільнікі, хіба што не вельмі гарачыя. Затое — доўгачасовыя.

Кася Камоцкая, традыцыйна для апошняга часу, выйшла на сцэну ў кампаніі з лідэрам рок-гурта "Уліс" і фенаменальным гітарыстам Вячаславам Коранем. Дзве гітары ўтварылі чароўны эфект. І хоць песні былі ўсе знаёмыя, ад добрых рэчаў у добрым выкананні заўжды атрымліваеш асалоду.

Андрэй Мельнікаў... Заспяваў па-беларуску ў 87-м. Ну што сказаць пра сябе, апроч добрага? Праспяваў тое, што планаваў, плюс — тое што папрасіла зала.

Віктар Шалкевіч. Па-беларуску пачаў спяваць у 88-м.Чакалася, што выступіць з камандай. Але Віктар выйшаў адзін. Творчасць Шалкевіча апошніх гадоў — цынічныя танга — далёка не ўсім падабаюцца, ды, бадай, адпавядаюць сучаснаму стану творцы.

Адраджэнская хваля 1989—94 гадоў адкрыла для беларускай аўтарскай песні добрых два дзесяткі новых імёнаў. З іх на фестывалі даволі нечакана ўразіў Алег Дашкевіч, журналіст, больш вядомы як аўтар зусім не паэтычных тэкстаў. На "Гэта Мы" залу моцна страсянуў яго "Зялёны патруль" — блюзавы шэдэўр, які, пэўна, можа стаць бардаўскай "візітоўкай" Дашкевіча.

Валер Пазнякевіч... Амбіцыйны і катэгарычны журналіст "Чырвонай змены". Свой погляд на аўтарскую песню і яе межы няўхільна дэманструе і на сцэне і па-за ёй. Мае, як паказаў фестываль, немалую аўдыторыю прыхільнікаў.

Алесь Палынскі... Журналіст, таксама з "Чырвонай змены". Манера выканання — традыцыйная. Слухаючы яго, уяўляюцца кампаніі ля камінаў ці ля вогнішчаў у лесе.

Серж Мінскевіч... Журналіст "Культуры", адзін з лідэраў літаб'яднання "Бум-бам-літ" і лідэр нядаўна створанага рок-гурта "Жах". Музыку апошнім часам апрацоўвае з дапамогай камп'ютэра. Шэраг маіх знаёмых арганічна не пераварваюць Мінскевіча, а ледзь пачуўшы — выходзяць з залы, іншыя — наадварот: гатовыя слухаць бясконца. Такая вось неабыякавасць. Між іншым, менавіта Серж з году ў год атрымлівае запрашэнні ў Бельск на "Восень". Раней, стылёва Мінскевіч бліжэй за ўсё быў да панку, зараз я пазбегну канкрэтнага вызначэння — прыходзьце, слухайце. Не спадабаецца — дык бяжыце з залы.

Вольга Акуліч... Журналістка "Кроку". Кароценькія яе песні-выказванні гучаць вельмі па-жаноцку і па-жаноцку разумна, нагадваючы традыцыйныя рускамоўныя аналагі. Вольга мае сталых прыхільнікаў. Мне ж слухаць яе цікава, бо і знаёма і зразумела.

Зміцер Дзядзенка... Рэдактар тэлебачання. Пачынаў з паэзіі, пасля перайшоў на больш "інтэлектуальныя" жанры і небясплённа сябе там праяўляе. Неэфектны, як "чалавек сцэны", і манера падачы — не для вялікіх залаў. Слухаючы Дзядзенку, трэба сканцэнтравацца на тэкстах. Тэксты ў яго цікавыя для тых, хто здольны мысліць самастойна.

Зміцер Бартосік... Журналіст з "Нашай Нівы" — найпапулярнейшы сёння беларускі бард на значных тэрыторыях, сярод якіх горад Мінск. Вельмі моцны сцэнічны імідж — гэткі "беларускі Элвіс". Ілюзія разумення з залай яго шматслойных насамрэч тэкстаў. Бартосік закранае "калектыўнае падсвядомае" пакаленняў "позняга саўка": "штосьці такое знаёмае і прыемнае".

Алег Мізула... Лаўрэат "Залатой горкі", заўважаны дзякуючы незвычайнай самааддачы пры выкананні і не прыняты дасюль многімі. Глабальныя тэмы песень Мізулы рэзка кантраставалі з яго местачковым іміджам (напрошваюцца, бадай, аналогіі з Сяргеем Міхалком і "Ляпісам", але там — свядомы "сцёб", тут жа — непрымальны для многіх постмадэрн), з "рэстаранным надрывам" ды імпульсіўнымі паводзінамі. Як вынік — незапрашэнне на абодва "Мінскі", амаль двухгадовы перапынак у публічных выступах.

З Берасця прыехаў зноў сабраны, пасля часовых непаразуменняў, бард-клуб "Вежа": Вольга Сідарук, Вячаслаў Вінцэнт Вашэка, Алесь Паплаўскі, Сяржук Храмаў. Кожны "вежавец" спачатку выступіў індывідуальна. Я б сказаў, індывідуальна-непаўторна.

На першы погляд, "вежаўцы" неамбіцыйныя. Так бы мовіць, мы з правінцыі прыехалі. Але кожны жадае засведчыць сваю паэтычную асобу, і гэта атрымліваецца.

Вольга Сідарук... Яна робіць стаўку на моц голасу, чужыя тэксты і традыцыйнасць. Межы вызначаныя, тое, што знутры — удасканальваецца. У выніку — досыць прафесійна і прыдатна для афіцыйных імпрэзаў. Не горш за Надзею Мікуліч.

Вячаслаў Вінцэнт Вашэка... Былы спартсмен высокага класа і школьны настаўнік, і ў свой выступ уносіць элемент спаборніцтва з магчымымі канкурэнтамі. На мой погляд, найудзячнай аўдыторыяй Вашэкі могуць быць неафіты беларушчыны, неабыякавыя да патрыятызму дзяржаўныя служачыя і спартоўцы ўдалечыні ад Радзімы.

Алесь Паплаўскі... Шмат год як знайшоў сваю трывалую "нішу" — беларускі раманс. Ніхто дагэтуль не ўзяўся за "раскрутку" Паплаўскага. Верагодна таму, што рамансы ён піша на ўласныя вершы.

Сяржук Храмаў... Даволі простыя тэксты і мелодыі, нагадваюць гарадскія рамансы з "Иронии судьбы...". Але гэтым яны і прыцягальныя — я не ведаю на Беларусі бардаў, якія б успрымалі горад настолькі лагодна і цёпла, як Храмаў. Для Сержука горад — не толькі месца змагання, канкурэнцыі, небяспекі і канфліктаў. Перш за ўсё — гэта натуральны асяродак існавання. З усімі адпаведнымі асацыяцыямі.

Калектыўны выступ "Вежы" сарваў шквал апладысментаў і выклікі "на біс". Жылі б "вежаўцы" ў Мінску — пэўна б з імпрэзаў не вылазілі. Прынамсі, ніякіх аналагаў гэтаму калектыву не існуе, а цікавасць да таго, што і як яны робяць, заўжды вялікая.

Другі бард-клуб Беларусі — магілёўскі "Новы горад". У Магілёве ён аб'ядноўвае два дзесяткі творцаў (з якіх, можа, найвядомейшы рускамоўны — Аляксандр Баль) і іх прыхільнікаў, а ў Мінск прыехалі пяць беларускамоўных бардаў — Васіль Аўраменка, Ігар Мухін-Рабянок, Сяржук Кулягін, Віктар Юдзін, Павел Пастухоў.

Васіль Аўраменка... Адзін з вядучых магілёўскіх урачоў-неўрапатолагаў, чалавек шырокага творчага дыяпазону. Песні — толькі адно з яго захапленняў. Чытачы "ЛіМа" добра знаёмы з філасофска-публіцыстычнымі тэкстамі Аўраменкі, шэраг яго карыкатур (пад псеўданімамі) друкавалі самыя розныя выданні, а яшчэ Васілю ўжо даўно варта было б наладзіць выставу сваіх акварэляў — хаця б для вузкага кола. Песні Аўраменкі — таксама няпростыя. Па манеры выканання Васіль найбольш набліжаны да жанру расійскага бардаўскага шансону — і там гатовы прыняць яго за свайго, але — ну не хоча файны неўрапатолаг спяваць па-руску, прынцыпова не хоча.

Ігар Мухін-Рабянок... Прапагандыст па адукацыі і складу душы. Нават яго эстрадная лірыка гучыць неяк мітынгова. Пэўна, самае тое, каб выхоўваць маладзенькіх і сівых неафітаў ды падтрымліваць энергетыку адраджэнскіх імпрэз. Працяг творчасці Сержука Сокалава-Воюша ўзору 89—90. Пісьменнікі-адраджэнцы — у захапленні ад яго. І не толькі пісьменнікі.

Сяржук Кулягін... Ці не вядучы магілёўскі тэлежурналіст, кіраўнік "Новага горада". Такі знаёмы беларусам тып шчырага нацыяналіста-калабаранта з добрымі арганізатарскімі здольнасцямі. Са сцэны спявае ўласныя рамансы. Шмат каму яны даспадобы. Але калі б тэкстам паболей глыбіні, думаецца, было б лепей.

Віктар Юдзін... Рэзка крытычны погляд на жыццё і завостраныя сацыяльныя тэксты. Падыход характэрны для канца 80-х. Думаю, карысна слухаць каму-небудзь з неафітаў ва ўзросце. Прынамсі, у Юдзіна ёсць трывалая пазіцыя. Яна зусім не банальная, а для кагосьці і вартая пераймання.

Нарэшце, тыя хто "засвяціліся" ў беларускім бардаўскім асяроддзі ў апошнія чатыры гады: Павал Пастухоў, Віталь Равінскі, Валер Жамойцін, Яўген Савельеў, Зміцер Вінаградаў, Андрэй Латушкін.

Павал Пастухоў... Настаўнік музыкі ў закрытай установе для малагадовых злачынцаў. Выканаў рэкордна-доўгую песню-баладу — "Свіцязь" на словы Адама Міцкевіча і яшчэ некалькі рознастылёвых песень. Павал закаханы ў музыку і апантаны тым, што робіць. Кантакт са слухачамі, часам, перарываецца, але перспектывы ў гэтага хлопца, адназначна, ёсць.

Віталь Равінскі... Урач-паталагаанатам, з першага пасляваеннага пакалення, спявае: "я дакапаўся да сусветных ісцін, капай і ты — пара твая прыспела". Дэманструе сваім прыкладам, што беларуская аўтарская песня развіваецца не толькі маладымі. Манерай выканання нагадвае вядомага пецярбуржца Аляксандра Гарадніцкага.

*(Працяг на стар. 14—15)*

Аляксандр Пятровіч вельмі любіў.

Дамоў мы вярталіся разам. Настылы трамвай, з белым інеем на вокнах, гулка стукаў па рэйках. Капусцін апавядаў, як хваляваўся сёння, ці атрымаецца вечарына, ці збяруцца людзі, пачаў угаворваць зайсці да яго ў госці.

— Эмілія Іванаўна трохі прыхварэла. Але яна будзе рада. Пачастуе вішнёвай наліўкай. Пайшлі, трэба адзначыць вечарыну. Ды і стрэс зняць не пашкодзіць...

І вось мы сядзім ва ўтульнай кватэры. Багата кніг, цёпла паблісквае крышталёвы посуд. Усюды чысціня, парадак. Міжволі падумалася: у гэтай кватэры асаблівы парадак, які ніколі не парушалі ні дзеці, ні ўнукі. Дзяцей у Капусціных не было. На гэтую тэму я пазбягаў размоў, але пры кожнай сустрэчы Капусцін пытаўся пра маіх дзяцей, а потым, калі паявіліся ўнукі, не забываў спытацца пра іх. Я адказваў скупа, каб не вярэдзіць душу старэйшага сябра. Разумеў, што ў яго нібы застарэлая, незагойная рана, жыве шкадаванне, што Бог не даў ім дзяцей. Можа, таму муж і жонка Капусціны вельмі клапатліва ставіліся адно да аднаго. Падобнай увагі, клопату, узаемаразумення не даводзілася мне бачыць у іншых сем'ях.

— Мілёк, сёння твая наліўка прыемная і духмяная, як ніколі. Ці так, Леанід?

— Наліўка проста цуд, — пахваліў і я.

— Ну, калі так, то і я трошкі вып'ю. А то збрыдзелі мне лекі...

Эмілія Іванаўна распытвала ў Аляксандра Пятровіча, у мяне, як прайшла вечарына, хто і што гаварыў.

Пасля "вішнёўкі" пілі гарбату, завараную на зёлках. І ў маёй душы яшчэ раз варухнулася думка: як было б добра, каб у гэтай кватэры была дачка ці сын, а мо і ўнучак. Мне заўсёды хочацца, каб у добрых, прыгожых людзей нараджалася болей нашчадкаў. Можа, таму, што сам рос у вялікай дружнай сям'і — быў дзевятым дзіцем, мне хочацца, каб і сучасныя сем'і былі большымі. Але сучаснае жыццё гэтаму не спрыяе.

Пра сям'ю, выхаванне дзяцей ёсць нямала старонак у творчасці Капусціна. У апошняй кнізе, пра якую гаварылі мы на возеры, ёсць абразок "Сусанніна гульня". Напісаны ад першай асобы. Аўтар едзе ў камандзіроўку, задуменна сядзіць у купэ і раптам чуе дзіцячы голас:

— Дапамажыце! Ратуйце!

Услед за гэтым затупалі дзіцячыя ногі і дзве дзяўчынкі праімчалі па калідоры з лямантам: "Дапамажыце! Ратуйце!"

Аўтар пачаў ушчуваць дзяўчынак, тады адна з іх сказала: "Мы гуляем у маму і тату". А тут падышла і мама з высока ўзбітай фіялетавай прычоскай, навалілася на дзядзьку, маўляў, чаго ён чэпіцца да дзяцей. Аўтар дакарае сябе, але тут я працытую дакладна:

"Усюды ты ўсунеш свой нос... — Усярэдзіне ў мяне быццам сухавей віхурыў. — А фіялетавую гэтую муж, відаць, ганяе як сідараву казу — цаца добрая... Дык жа і ён, мабыць, яе варты — абое рабое?.. Дзяўчынку шкада..."

Вось гэтая неабыякавасць, жаданне ўсюды "ўсунуць нос", пастаяць за справядлівасць — скразная лінія жыцця і творчасці Аляксандра Капусціна.

Такім быў у жыцці і творчасці Аляксей Пысін. Не дзіва, што ў апошнія гады Капусцін і Пысін вельмі пасябравалі. Пра сваю павагу да Аляксандра Капусціна некалі расказваў мне па-зямляцку Аляксей Васільевіч. А пра свае сустрэчы, гутаркі з выдатным паэтам напісаў Капусцін у сваіх успамінах.

●

Аднойчы я пазваніў Аляксандру Пятровічу, сказаў, што перадрукаваў сваю аповесць, якая называецца "Узяць пад варту ў зале суда".

— Калі можаш, прынось зараз. Я прачытаю. І даволі хутка.

Слова Капусцін стрымаў. Праз колькі дзён я зноў сядзеў у ягоным кабінеце-катуху.

— Памятаю, ты гаварыў пра сумненні... Дык вось, скажу адразу. Сумненні ў творчых людзей бываюць заўсёды. У цябе няма тут гучных, жахлівых працэсаў. Звычайныя, побытавыя справы: хуліганства, крадзяжы, разводы. Гэта — наша жыццё. Атрымаўся сацыяльны зрэз грамадства. У гэтым твая творчая ўдача... А па працэдуры, — Капусцін хітра зірнуў на мяне з-пад акуляраў, усміхнуўся, — тут ёсць заўвагі...

І сапраўды, заўвагі меліся. Хоць я не адзін год быў народным засядацелем, там-сям праскочылі недакладнасці. Былы суддзя Капусцін прапусціць іх не мог.

●

Быў звычайны восеньскі дзень 1996 года. Даволі ветраны, золкі, але часам з-за хмар выбівалася сонца. Я чакаў у выдавецтве Капусціна, каб уручыць карэктуру ягонай кнігі "Усяму беламу свету".

І вось ён на парозе. Павітаўся, падаў руку — халаднаватую, цвёрдую. Быў ён нейкі ссутулены, кароткія вусы падаліся яшчэ болей сівымі. Уразілі вочы: яны глядзелі неяк суха, вельмі журботна.

— Ты ведаеш, Лёня, быў у вёсцы і ледзьве не памёр там. Як хапіла сэрца... Эмілія Іванаўна выклікала "хуткую". Завезлі мяне ў Мар'іну Горку, у райбальніцу. Нашпілялі ўколаў. Тры дні трымалі, потым адпусцілі... Во трохі акрыяў. Пайду сёння на сход у Дом літаратара.

— Едзьце вы дадому, Аляксандр Пятровіч. Чытайце карэктуру. Сход абыдзецца без вас.

— Не, вырашаецца лёс "ЛіМа". А я ж працаваў у ім. Дык і ты ж лімавец?

— Так, я раней за вас там працаваў.

— Я рады, што дачакаўся карэктуры. Цяпер болей верыцца, што кніга выйдзе. Колькі часу даеш на чытанне?

— Ну, тыдзень, дзён дзесяць. Хопіць?

— Хопіць. Я прачытаю хутчэй...

Я зноў параіў Аляксандру Пятровічу не ісці на сход, а ехаць дамоў.

— Не, пайду. Не развітваюся. Убачымся.

Хіба мог я тады падумаць, што болей мы ніколі не ўбачымся?

●

Выразна помніцца той незабыўны сход. Пісьменнікі рашуча выступілі ў абарону свайго штотыднёвіка "ЛіМ", які хацелі аб'яднаць з газетай "Культура". Капусцін не выступаў, не згледзеў я, калі ён выйшаў, бо сядзелі па розных баках залы. Падчас сходу нешта ўстрывожана гаманіў прэзідыум, а потым па радах пранеслася: "Капусцін памёр. У вестыбюлі..." Я рвануўся з месца, выбег з залы і аслупянеў: у прасторным халодным, асветленым нізкім сонцам вестыбюлі, накрыты з галавою шэраю коўдрай ляжаў Аляксандр Пятровіч...

Кніга Аляксандра Капусціна "Усяму беламу свету" выйшла з друку ў пачатку 1997 года. Аўтар паспеў толькі патрымаць у руках звёрстаныя гранкі, пяшчотна пагладзіць старонкі будучай кнігі, якую доўга пісаў, перапісваў, асабліва нарысы пра славутых землякоў. І назва яе сімвалічная: "Усяму беламу свету".

Усё, што напісаў Аляксандр Капусцін, усё, што зрабіў, бібліятэка, якую збіраў доўгія гады, — усё засталося людзям. Усяму беламу свету.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

*На здымку: Аляксандр КАПУСЦІН з Янкам СКРЫГАНАМ і Еўдакіяй ЛОСЬ. 1976 г.*

ларускі бард з самым "здаровым вобразам жыцця".

Уладзімір Клімовіч, бард і пісьменнік, стварае рэчы, якія маюць немалое кола прыхільнікаў, а кагосьці і прыцягваюць да беларушчыны.

Мікола Жура — творца, які моцна страсянуў Магілёў у 91-м сваімі песнямі, але не знайшоў тады дастатковай падтрымкі і сышоў у хатнюю творчасць.

Алег Бахарэвіч — "цынічны панк" з Бумбам-літа. Аўтар не купалаўскай "Спадчыны" і яшчэ шмат чаго.

Андрэй Хадановіч — перакладчык французскай і польскай класікі, вельмі іранічны паэт. Як беларускі бард упершыню праявіў сябе ў Беластоку ў 1996 г.

Браты Дзямідчыкі — беларускія евангелісты з Оршы. Прымалі ўдзел у афіцыйных фэстах "Аршанская Бітва".

Аршанка Галя Дарэўская, таксама "засвяцілася" некалі на "Аршанскай бітве". Далейшы лёс невядомы.

Гарадзенец Уладзімір Хільмановіч, журналіст, які спецыялізуецца на спорце, стварае мелодыі да крануўшых яго душу беларускіх вершаў. Мае прыхільнікаў.

Валеры Руселік — таксама гарадзенец. Яму ўсяго васемнаццаць гадоў. А песні яго ведаюць не толькі ў Гародні, але і ў Мінску, і ў Польшчы.

Маруся Аліфер — беластоцкая студэнтка, асела ў Мінску. З голасам, мацнейшым, чым у Цярэшчанкі і зменлівым месцам жыхарства.

Лана Медзіч — мела на Беларусі нямала прыхільнікаў і запамінальны імідж. З'ехала ў Піцер.

За межамі Беларусі жывуць і спяваюць Сяржук Сокалаў-Воюш, Зміцер Варапаеў, Уладзімір Палупанаў, Даніла Фёнік.

Пэўна, ёсць і іншыя беларускія барды, але яны не вядомыя, на жаль, мне...

●

Гісторыя і сучаснасць беларускай бардаўскай песні паказваюць — яна жыве. Досыць шырокія межы жанру дазваляюць беларускаму бардаўскаму руху штогод нараджаць новыя імёны. Для кагосьці бардаўская песня — прыступка для далейшага рокавага ўзыходжання, хтосьці застаецца на памежжы — робячы то індывідуальныя, то гуртовыя праекты, хтосьці "захоўвае традыцыі". Своеасаблівае "свабоднае грамадства". Думаецца, менавіта ў свабодзе — перспектыва нашага існавання.

Фестываль "Гэта Мы" адпавядае прынцыпу свабоды. А таму мае ўсе падставы стаць традыцыйным.

**Андрэй МЕЛЬНІКАЎ**

**Ад рэдакцыі.** Чым зацікавіў нас гэты артыкул? Сваёй першаснасцю, поглядам знутры... Бадай, упершыню зроблены высновы беларускамоўнай бардаўскай песні. Зроблены не чалавекам збоку, а самім аўтарам-выканаўцам. Высновы хоць і суб'ектыўныя, але, як нам здаецца, насамрэч шчырыя. Глеба для розгаласу, узаемакарыснай дыскусіі больш чым урадлівая...

ПАМЯЦЬ

# Была сярод вядучых

Імя заслужанай артысткі Беларусі Тамары Пастунінай добра вядома аматарам опернага мастацтва. Днямі ёй споўнілася б 75 гадоў...



Нарадзілася Тамара Міхайлаўна ў Гомелі. Вучылася па класе вакалу спачатку ў Маскоўскім музычна-педагагічным інстытуце імя Гнесіных, а затым у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

У трупу тэатра оперы і балета яна была прынята ў 1952 годзе. Прыхільнікі таленту спявачкі памятаюць яе прыгожы голас, лірыка-каларатурнае сапрана з шырокім дыяпазонам і цудоўным верхнім рэгістрам. На беларускай опернай сцэне Тамара Пастуніна спявала вядучы рэпертуар. Гэта Віялета і Джыльда (оперы "Травіята" і "Рыгалета" Дж. Вердзі), Разіна ў "Севільскім цырульніку" Дж. Расіні, Лейла з "Шукальнікаў жэмчугу" Ж. Бізэ, Лакмэ ў аднайменнай оперы Л. Дэліба, Марфа ў "Царскай нявесце" М. Рымскага-Корсакава. Выступала спявачка і ў операх беларускіх кампазітараў.

Тамара Пастуніна была даволі папулярная ў свой час артыстка, мела вялікі поспех у публікі. Цёплыя ўспаміны пра яе засталіся ў памяці партнёраў па сцэне. Расказвае народны артыст Беларусі Валеры Глушакоў: "З Тамарай Міхайлаўнай было вельмі прыемна працаваць. Маючы прыгожы голас і музыкальнасць, яна была выдатная актрыса, умела стварыць вобраз, удала ўпісвалася ў мізансцэны. Разам мы спявалі на працягу дзесяцігоддзя". Партнёрамі Т. Пастунінай па сцэне былі І. Балоцін, М. Дзянісаў, А. Генералаў. Даводзілася ёй выступаць і з Іванам Сямёнавічам Казлоўскім. Добрую памяць пра спявачку захоўвае народная артыстка СССР Тамара Ніжнікава: шмат гадоў іх звязвала не толькі творчая садружнасць, але і шчырыя сяброўскія адносіны.

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

# Дваццаць пяць крокаў да зор...

Калі нараджаецца чалавек, на нябёсах загараецца зорачка, калі чалавек памірае — зорка згасае, падаючы долу, і след яе ў небе змушае да роздуму аб жыцці і смерці іншых людзей...



14 студзеня гэтага года памёр Міхась Райчонак. Што кажа гэта імя беларусам? Ён нарадзіўся на беразе блакітнай Дзісны ў вёсцы Германавічы Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці 3 ліпеня 1974 года. Маці — настаўніца беларускай мовы ў вясковай школе, бацька — земляроб (сёння — фермер), выхавалі ў дзіцячым сэрцы любасць, павагу і гонар да роднага краю, зацікавілі хлапчука гісторыяй Беларусі, натхнілі яго на даследаванне невядомых скарбаў беларускай культуры.

У сваёй Германавіцкай школе Міхась арганізаваў гурток "чырвоных следапытаў". Яны збіралі звесткі аб сваіх земляках, праводзілі раскопкі на месцах баёў Вялікай Айчыннай вайны, стварылі са сваіх пошукавых матэрыялаў школьны музей баявой славы. Даследчая праца захапіла юнака, ён спрабуе выкласці свае думкі аб гісторыі роднага краю ў сачыненні, якое, трапіўшы на вочы выкладчыка Віцебскага педагагічнага інстытута, паспрыяла, каб адчыніліся хлопцу дзверы ВНУ.

Міхась вучыўся на філалагічным факультэце (аддзяленне беларускай мовы і літаратуры), а разам з тым браў удзел у археалагічных раскопках на Верхнім замку ў Віцебску, цікавіўся гісторыяй беларускага Адраджэння, адкрываў для сябе новыя імёны змагароў за вольную Беларусь. Імя Язэпа Драздовіча — беларускага мастака і археолага, настаўніка і літаратара, які нарадзіўся і жыў на Дзісеншчыне — было вернута з небыцця кнігай Арсеня Ліса "Вечны вандроўнік". Але ці заўсёды друкарскае слова знаходзіць чытача? Міхась Райчонак разам са сваёй маці пачынае клапатлівую збіральніцкую працу па стварэнні ў Германавічах культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча. Гэты незвычайны музей адчыніўся у 1992 годзе. Трэба сказаць, фондам гэтага музея можа пазайздросціць любы музей Беларусі. Тут жывуць і распавядаюць сваё хвалюючае жыццё партрэты Францішка Скарыны, спявае гістарычныя паданні старажытны пясняр баян, прыцягваюць увагу дзівосныя звяры, намаляваныя рукою Язэпа Драздовіча. А колькі беларускіх абрусоў, посцілак, вышываных кашуль. Ёсць некалькі кроснаў, цэлы пакой керамічнага посуду...

Колькі руплівай штодзённай працы пакладзена было на гэта! Але Міхась вырашыў узняць спадчыну Язэпа Драздовіча на ўзровень навуковых канферэнцый, прыцягнуць да ягонага лёсу, да лёсу невядомых творцаў нашай культуры ўвагу беларускіх і замежных даследчыкаў. Праведзеная і падрыхтаваная ім міжнародная канферэнцыя ў Мёрах дала вялікі плён для далейшых пошукаў у галіне гісторыі, якая напрыканцы другога тысячагоддзя захоўвае незлічоныя скарбы духоўнага жыцця беларусаў.

Новай формай пашырэння ведаў аб жыцці і творчасці славутага земляка з'явіліся мастацкія пленэры, якія былі прымеркаваны да дня нараджэння Я. Драздовіча і праводзіліся ў прыгожых мясцінах, дзе жыў "вечны вандроўнік". Мастакі Алесь Марачкін перадаў музею значную колькасць прац Я. Драздовіча, Мікола Купава, Віктар Маркавец і іншыя стварылі падчас гэтых пленэраў (1996 і 1998 гг.) своеасаблівую галерэю духатворчай прыроды, краявідаў Дзісеншчыны.

Цэлы год працаваў Міхась як выкладчык беларускай літаратуры ў інстытуце, дзе калісь сам вучыўся; з'яўляўся аспірантам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН, дзе працаваў над тэмай "Літаратурныя працы Язэпа Драздовіча". У 1997 годзе на старонках "Літаратуры і мастацтва" адбыўся літаратурны дэбют Міхася. А летась у часопісе "Маладосць" з'явіліся ягоныя новыя творы, якія вызначаліся цікавай алегарычнай формай.

Ён прыцягваў людзей шчырасцю і душэўнай цеплынёй, быў дужым і статным. Што маладое сэрца падвядзе — ніхто не мог і падумаць...

У дваццаць пяць гадоў зорка Міхася згарэла ў зямным жыцці, але ж яна зіхаціць высока ў нябёсах, да якіх лёс далучае не кожнага. Памяццю жыве чалавек. Я жадаў бы аднаго: каб школа ў Германавічах стала школай імя Міхася Райчонка. Гэта тое невялічкае, зямное, што дапамагае нашчадкам ведаць імёны патрыётаў Беларусі.

**Юры МАЛАШ**

# "Эліксір жыцця"

Дзмітры Шатыловіч. Адзін з пачынальнікаў беларускай паэтычнай плыні ў пасляваеннай Польшчы, удзельнік літаратурнага аб'яднання "Белавежа", знакаміты аўтар "Нівы" і альманахаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства (яшчэ з 1957 года)... Што мы ведаем пра гэтага чалавека?

Нельга сказаць, каб зусім нічога. Ёсць артыкул у энцыклапедыі "Беларускія пісьменнікі", некалькі абзацаў у артыкуле С. Чыгрына "Пад дзіўны гоман Белавежскай пушчы: Беларуская літаратурная плынь у Польшчы" ("Роднае слова", N 2, 1995 г: змешчаны і адзін верш паэта). Гэта, здаецца, усё. Толькі нядаўна ў "Народнай Волі" (N 79, 5 траўня 98 г.) нарэшце выйшла невялікая падборка яго твораў. Сумна, што так мала мы ведаем паэтычнае слова нашых замежных суайчыннікаў...

Дзмітры Шатыловіч нарадзіўся на Беласточчыне, у вёсцы Чаромха, 8 лістапада 1926 года. Менавіта там прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Потым — вайна, прымусовая работа ў Германіі, у баўэра; вызваленне, фронт, раненне... Пасля вайны будучы паэт атрымаў вышэйшую тэхнічную адукацыю, пераехаў у Варшаву. Працаваў на адказнай інжынернай паса-дзе. На працягу жыцця неаднаразова яму даводзілася выязджаць у розныя краіны свету.

Асобныя паэтычныя зборнікі выйшлі параўнаўча нядаўна: у 1992 г. — "Эцюды падарожжа" і ў 1993-м — "Маё Падляшша". Вершы ў іх тэматычна разнастайныя. Галоўнай заслугай Шатыловіча лічыцца, між тым, стварэнне тэматычнага цыкла аб радзіме — Беласточчыне. Паэт усхваляе хараство яе прыроды, апісвае народныя святы, побыт людзей, шмат чаго ўзгадвае з даваенных і ваенных часоў. (Не дзіўна, што "Народная Воля" адабрала для публікацыі вершы менавіта гэтай тэматыкі). У Шатыловіча — моцная грамадзянска-патрыятычная лірыка. У праніклівых радках паэт паўстае супраць нацыянальнай несвядомасці, добраахвотнага апалячвання іншых сваіх суайчыннікаў. Асуджае і эмігрантаў, якія адцураліся сваёй культуры і мовы. Няма, аднак, сумневу, што аўтар глыбока верыць у жыццяздольнасць беларускага народа.

"Літаратура і мастацтва" знаёміць чытача з іншым і цікавым напрамкам творчасці паэта з Беласточчыны. Гэта — лірыка кахання.

**Аляксандр АДЛІВАНЧЫК**

Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ



## Помню

*Я ўсё помню той мост*
*над абрывам ракі,*
*Павуціну звісаючай ночы,*
*І ласкавы апошні*
*твой поціск рукі,*
*І расою пакрытыя вочы.*

*Памятаю дрыжачы*
*твой шэпт на губах*
*Аб каханні, аб доўгай разлуцы.*
*Як ты моцна трымала*
*ў шаўковых руках*
*Падарунак мой —*
*жменю настурцый.*

*Як апошні ты раз цалавала мяне,*
*Як шаптала "бывай" — неахвоча,*
*І як плаўнай паходкаю,*
*нібы ў чаўне,*
*Паплыла ў чорнай бездані ночы.*

*І я помню, што доўга стаяў*
*і глядзеў*
*Я на вугаль чарнеючай далі...*
*Пацалунак жа твой на губах*
*мне гарэў,*
*І як полымя шчокі палалі.*

1957 г.

## Каб ты яшчэ ўчора прыйшла

*Каб ты яшчэ ўчора прыйшла*
*на спатканне*
*Букет пышных руж*
*я б табе падарыў,*
*Я нёс да цябе іх*
*з адзіным жаданнем*
*Каб позірк твой раз*
*хоць бы іх азарыў.*

*Яны для цябе зацвілі так цудоўна,*
*Іх колеры ззялі, як зор агалькі,*
*Яны б яшчэ доўга цвілі, безумоўна,*
*Каб ты абняла іх далонню рукі.*

*Каб ты яшчэ ўчора прыйшла*
*на спатканне*
*Я сэрца сваё б для цябе б перадаў,*
*Яго ў невымерных*
*знямогах чакання*
*Праз многа гадоў*
*я табе пратрымаў.*

*Аднак не прыйшла ты,*
*і кветкі завялі,*
*Пакрыў іх пялёнкаю пыл забыцця,*
*А сэрца ад сораму, болю і жалю*
*Заціхла ў грудзях*
*пад цяжарам жыцця.*

1961 г.

## Жанчына з Луўра

*Палац каралеўскі дрыжыць*
*ад людзей,*
*Палкі пілігрымаў з далёкіх краін*
*Прыйшлі паглядзець*
*на асколкі падзей,*
*Застылых у бронзы*
*ці ў фарбах карцін.*

*Крылатая Нікэ пускае без віз.*
*Як вулей, гудзіць разнамоўны*
*натоўп.*
*Павольным патокам уверх*
*альбо ўніз*
*Плыве ён, як Сена між*
*арак мастоў.*

*Тут цяжка запомніць*
*усіх мастакоў,*
*Палотны якіх паглядаюць са*
*сцен,*
*Ад тых невядомых*
*з сярэдніх вякоў,*
*Да слаўных, як Гойя, Ван Гог,*
*ці Гоген.*

*Ва ўсіх калідорах і залах, са сцен,*
*Зрок вабяць фігуры*
*і твары жанчын,*
*Вясёлых, як сонца, і смутных,*
*як цень,*
*Дам пышна адзетых*
*і голых багінь.*

*Вось "Клеўская Анна" —*
*Гальбейна партрэт —*
*Глядзіць, як жывая*
*з-за тоўстага шкла,*
*Адзетая, быццам ідзе на банкет,*
*Ці мо к каралю ў каралеўскі палац.*

*У сукні, як рыза, адкрыты*
*ўвесь ліф,*
*Пад ёй шэмізетка ажурная ўся,*
*Карункі ўсю шыю, як вуж, аплялі,*
*А крыж і каралі бліщчаць,*
*як раса.*

*Твар доўгі і тонкі,*
*ні следу маршчын,*
*Пад верхнімі вейкамі два вугалькі,*
*Дзве вузкія бровы спадаюць*
*з вяршынь,*
*А вусны маленькія, як матылькі.*

*А Гальса "Цыганка"*
*глядзіць дзесьці ўбок*
*І шчыра смяецца, не ведаць чаму,*
*Дзве голыя грудзі зліліся ў клубок,*
*Пакінуўшы кофту,*
*як п'яны карчму.*

*Зноў смутныя вочы*
*ў "Мадам Рэкам'е":*
*Фрывольна ў кашулі прысела*
*ў шэзлонг*
*У келлі пустой, нібы дзесьці*
*ў турме, —*
*І страсна чакае, калі прыйдзе ён.*

*Далей "Адаліска" —*
*карціна Інгрэ —*
*Цудоўныя плечы паказвае нам,*
*Здаецца нядаўна папала ў гарэм*
*І вельмі баіцца султана яна.*

*Другую карціну "Крыніцай"*
*назваў,*
*Якая чароўна на левым плячы,*
*Трымае ў руках перахілены збан,*
*З якога вада ручайкамі цячэ.*

*І поўнае грацыі цела яе,*
*І грудзі, як яблыкі з райскіх садоў,*
*Красою сваёй разбудзіла ў мяне*
*Крыніцу ўспамінаў*
*пра ўсю маладосць.*

*У зале направа*
*ад цёмных дзвярэй*
*Дзівосная шафа стаіць ля сцяны,*
*Яе абступілі натоўпы людзей —*
*Ніяк наглядзецца не могуць яны.*

*З той шафы, як з клеткі,*
*праз шыбу акна*
*Джаконда чаруе усмешкай*
*жывой,*
*З вачэй жа яе свеціць*
*водбліскам дня*
*Ірадасць, і шчасце, і цёплы спакой.*

*Далей — сотні новых*
*жаночых вачэй*
*Праводзяць мяне праз цэлы палац.*
*Аб кожнай тут можна*
*было бы яшчэ*
*Асобна паэму ці верш напісаць.*

*А колькі статуй*
*і цудоўных багінь —*
*І грэцкіх і рымскіх*
*з далёкіх вякоў —*
*Мадонн і царыц, каралеўн*
*і княгінь,*
*Народжаных скульптара*
*ўмелай рукой.*

*"Венера Мілоская"*
*з пены марской,*
*Змянілася ў мармур,*
*як светлы янтар,*
*Стаіць напаўголая ў позе такой,*
*Што вее з яе абаяльнасць і чар.*

*Хоць позірк яе накіраваны ўбок,*
*Хаця і без рук, ды, здаецца, жыве,*
*І хочацца мне,*
*каб ступіла хоць крок*
*І выйшла на двор,*
*каб прайсці па траве.*

*Паказвае нам "Афрадыта*
*ў садах"*
*І фрукты ў руцэ і палову грудзей,*
*І думае, пэўна, аб новых пладах,*
*Якія любоў прынясе для людзей.*

*Мінуў ужо час,*
*я выходжу на двор,*
*Тут кветкі на клумбах гараць*
*у вачах,*
*Усюды краса, цішыня і прастор,*
*А я быццам п'яны стаю на нагах.*

*Я чуць буду доўга і ноччу і ўдзень,*
*І твары і позіркі розных жанчын:*
*Вясёлых, як сонца, і сумных,*
*як цень,*
*Дам пышна адзетых*
*і голых багінь.*

1975 г.

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

●

Абязлюднеў аршанскі цягнік, засталіся адны крыжаванкі на лаўках. І якія толькі аднаклетачныя насялялі гэты вагон! Ехаць так недалёка, а клетак у крыжаванках, пустых, незапоўненых клетак ну цэлы мільён. Хіба што іншыя віцябляне і віцяблянкі нашпігуюць цяпер тыя клеткі ў крыжаванках.

●

Не падаць рукі ці даць па мордзе — як гэта ўсё старамодна! Сёння не страляюцца на дуэлі — кілеры цябе падстрэльваюць. Ужо ў рэанімацыі думаеш са скрухай: зняважыў бы лепш пойху.

●

Выпусцілі календары і прытрымліваюць да пары. Пусціць у продаж па інфляцыйных цэнах — абанкруціцца выдавецтва. Далей трымаць — самаедства, людзі панакупляюць іншыя календары. А вы што зрабілі б на месцы выдавецтва, паважаныя спадары?

●

Уздыханні — спожыць закаханых. А калі ты не Клінтан і табе не трэба, чаго ты тады ўздыхаеш і мучышся? Не паспеў назапасіць гаручага?

●

Паводле М. Багаслоўскага. Успрымаецца без спрэчак двухбаковы медальён: калі наш, тады "разведчык", калі іх — тады "шпіён".

●

Як клапоцяцца аб сваіх адлюстраваннях палітыкі! Гарбачоў, калі быў прэзідэнтам, выпускаў партрэты без радзімых плям на галаве. Мао на партрэтах быў без барадаўак. Рэтушавалі барадаўкі і на партрэтах Чарненкі. Зюганаў і зараз садзіцца так, каб барадавак не відно было пры святле пражэктараў. У нас адзін Шушкевіч не прыхоўваў лысіну, і то таму, што без яе і галавы не было б. Клім з прыхамацей прыгажунь, а лідэры ці далёка пайшлі ад іх?

●

— Зноў чэргі, — радуюцца патрыёты, — аднаўляюцца нашы льготы. Што нам гэтыя доўгія ланцуг і — льготнікам, будзь ласкаў, без чаргі.

●

Усё не тое, усё не тое, "крабавыя палачкі" не палачкі, а сувоі, не крабы нават, а рыба мінтай, "Раял", што я п'ю, не спірт, а самапал, жлукта, што падсеў да мяне ў "настроі" і мы раскрутку давалі абое, не жлукта зусім, а паэт у запоі, заземленымі былі нашы мроі — усё не тое, усё не тое.

●

Міжпланетны кантакт з чорнай дзіркаю — зоркі міргаюць, і я ім падміргваю.

*У сувязі з планавым нявыхадам, наступны нумар тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выйдзе 26 лютага 1999 года.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фота-карэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 236-6071 |



*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3866.
Нумар падпісаны ў друк 11.2.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 661/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12